ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (89)
жнівень 2018 год

CATHOLICNEWS.BY



# Урачыстасці ў Браславе

## узначаліў французскі біскуп Дамінік Рэ

Стар. 9

# Папа Францішак змяніў параграф Катэхізіса аб смяротным пакаранні

**Папа Францішак ухваліў новую рэдакцыю параграфа 2267 Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, у якім гаворка ідзе пра адносіны да смяротнага пакарання.**

2 жніўня быў апублікаваны адмысловы рэскрыпт за подпісам кардынала Луіса Франсіска Ладарыі Фэрэра, прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння.

"Выкарыстанне смяротнага пакарання з боку законных уладаў пасля справядлівага працэсу на працягу доўгага часу лічылася адэкватным адказам на некаторыя злачынствы і дапушчальным сродкам, нават калі і крайнім, для абароны супольнага дабра.

Сёння ўсё больш умацоўваецца свядомасць, што асоба не траціць сваёй годнасці нават пасля здзяйснення найцяжэйшых злачынстваў. Акрамя таго, распаўсюдзілася новае разуменне сэнсу карных санкцый з боку дзяржавы. Нарэшце з'явіліся больш эфектыўныя сістэмы абмежавання свабоды, якія гарантуюць належную абарону грамадзян і адначасова не пазбаўляюць канчаткова вінаватага магчымасці выправіцца.

"Таму Касцёл у святле Евангелля вучыць, што "смяротнае пакаранне недапушчальнае, бо з'яўляецца замахам на непарушнасць і годнасць чалавека", і з рашучасцю спрыяе яго адмене ва ўсім свеце", – гаворыцца ў новай рэдакцыі параграфа.

Паведамляецца, што Святы Айцец зацвердзіў змены падчас аўдыенцыі для кардынала Ладарыі Фэрэра, якая адбылася 11 мая, і распарадзіўся, каб новая версія параграфа была перакладзена на розныя мовы і ўключана ва ўсе выданні Катэхізіса.

У папярэдняй рэдакцыі згаданага параграфа гаворка ішла пра тое, што пры ўмове, калі асоба і адказнасць вінаватага цалкам устаноўлены, традыцыйнае вучэнне Касцёла не выключае ўжывання смяротнага пакарання, калі гэта адзіны магчымы шлях дзейсна абараніць жыццё людзей ад несправядлівага агрэсара.

Разам з рэскрыптам быў апублікаваны ліст прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння да біскупаў ва ўсім свеце, у якім тлумачыцца, што новая фармулёўка параграфа 2267 "выказвае сапраўднае развіццё дактрыны" і не знаходзіцца ў супярэчнасці з папярэднім вучэннем. На яго трэба глядзець у святле першаснай адказнасці грамадзянскіх уладаў за абарону супольнага дабра, у сацыяльным кантэксце, дзе карныя санкцыі разумеліся інакш і ўжываліся ў асяроддзі, дзе было складана гарантаваць, што злачынец не зможа паўтарыць сваё злачынства. Іерарх падкрэсліў, што пра неабходнасць адмены смяротнага пакарання неаднаразова казалі і Ян Павел ІІ, і Бэнэдыкт XVI.



# Рукапісны ліст Святога Айца да епіскапату Чылі

**Пантыфік напісаў ліст да чылійскіх біскупаў. Ён выказвае надзею, што рашэнні, прынятыя на апошняй нарадзе епіскапату, дапамогуць рашуча процідзейнічаць бічу педафіліі і паспрыяюць адзінству біскупаў.**

Кароткі рукапісны ліст, апублікаваны на сайце Канферэнцыі Біскупаў з датай 5 жніўня 2018 года, адрасаваны старшыні епіскапату біскупу Санцьяга Сільва Ратамалесу. У ім Францішак выказвае сваё меркаванне на тэму дэкларацыі чылійскіх біскупаў, прынятай на днях на пазачарговым пленарным сходзе. Яна датычыцца рашэнняў і абавязальніцтваў па барацьбе з выпадкамі сексуальных злоўжыванняў сярод духавенства.

Папа адзначыў, што, пасля "стараннага" прачытання дакумента ён быў уражаны "разважлівай і панікілівай працай", якая стаіць за рашэннямі па барацьбе са злоўжываннямі. Пантыфік назваў пастановы епіскапату "рэалістычнымі і практычнымі", заяўляючы пра сваю ўпэўненасць, "што гэта рашуча дапаможа ва ўсім працэсе".

"Але што ўразіла мяне больш за ўсё, дык гэта прыклад біскупскай супольнасці, аб'яднанай вакол кіравання святым верным народам Божым", – прызнаўся Святы Айцец.

Папа падзякаваў за такі настрой, паколькі ён спрыяе "будаванню Касцёла".

Старшыня чылійскага епіскапату прызнаўся, што адчуў "суцяшэнне ў словах Пантыфіка". Гэта мабілізуе да працягу выпраўлення і абнаўлення місіі Касцёла.

У дакуменце 32 чылійскія біскупы просяць прабачэння ва ўсіх ахвяр гвалту. Яны прызнаюць, "што пацярпелі няўдачу ў рэалізацыі сваіх абавязкаў" і пасля сустрэчы з Папам у сярэдзіне мая ў Ватыкане абмяркоўваюць новыя захады адносна духавенства і свецкіх вернікаў з мэтай пазбегнуць выпадкаў злоўжыванняў.

# Папа Францішак завітаў да пажылой жанчыны

**28 ліпеня ў другой палове дня Папа Францішак здзейсніў нечаканы візіт да пажылой жанчыны, сваёй даўняй знаёмай.**

Папа прыехаў на сваім сінім аўтамабілі "Форд Фокус" на Вія-Александрыя, у рымскім квартале Салярыа, які ў той час быў амаль бязлюдным.

Такім чынам Святы Айцец скарыстаўся запрашэннем у госці ад пажылой жанчыны, якую даўно ведае і якая праз стан здароўя не выходзіць з дому. Яна неаднаразова выказвала жаданне сустрэцца з Пантыфікам.

Толькі нешматлікія мінакі пазналі сіні аўтамабіль і, нягледзячы на спякоту, вырашылі чакаць Папу пры выхадзе з дома гаспадыні. Візіт працягваўся каля гадзіны. Выйшаўшы, Францішак сустрэў невялікую групу жыхароў, якія віталі яго. Такім чынам, папскі візіт у цэнтры Вечнага горада стаў магчымасцю для спантаннай размовы з рымлянамі. Служба бяспекі дала магчымасць людзям свабодна падысці і паразмаўляць з Папам.

На заканчэнне сустрэчы Святы Айцец паблаславіў дзяцей і хворых.



# Папскі астраном пра зацьменне Месяца



**Назіранне зорнага неба можа дапамагчы нам не толькі ў спазнанні Сусвету, але і ў адкрыцці велічы Бога і праўды пра чалавека, перакананы айцец Габрыэле Джонці з Ватыканскай абсерваторыі.**

27-28 ліпеня зямляне маглі назіраць самае доўгае месячнае зацьменне ў гэтым стагоддзі. Адначасова Марс наблізіўся да Зямлі амаль на мінімальную адлегласць.

"Мы ў Ватыканскай абсерваторыі назіраем неба такім жа чынам, як і іншыя астраномы. Але вельмі часта неба з'яўляецца крыніцай духоўнага натхнення, бо яно кажа нам пра славу Божую, гаворачы словамі Псальма. У прыгажосці сусвету мы выяўляем ускосна прыгажосць Бога. Ускосна, таму што гэта не з'яўляецца навуковым доказам існавання Бога. Аднак усе, хто назірае неба, разумеюць, наколькі нязначным ёсць чалавек супраць неабсяжнасці сусвету. І тут узнікае пытанне: наколькі гэта магчыма, што чалавек настолькі малы, як пясчынка, ставіць пытанні, якія здаюцца бясконца большымі, чым ён сам? Чалавек адкрывае ў сабе пачуццё бясконцасці, што не ўпісваецца ў яго абмежаванне. І зноў жа ўскосна гэта адсылае нас да Бога, Які для нас, вернікаў, з'яўляецца Стваральнікам гармоніі, каторую мы адкрываем у космасе", – сказаў езуіт.

Ватыканская астранамічная абсерваторыя была заснаваная ў 1774 годзе ў Рыме, а цяпер дзве яе навуковыя групы працуюць у Кастэль Гандольфа пад Рымам і ў штаце Арызона ў ЗША, дзе лепшыя ўмовы для астранамічных назіранняў.

*Старонка падрыхтаваная паводле матэрыялаў беларускай рэдакцыі Vatican News*




## Названа імя новага пробашча ў Будславе

Як стала вядома з паведамлення курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, шматгадовы пробашч парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Будслаў (Мядзельскі дэканат) кс. Віктар Бурлака OFM звольнены са сваёй пасады, паведамляе Catholic.by.

Новым пробашчам у Будслаў прызначаны кс. Дзмітрый Дубовік, былы пробашч парафіі св. Барбары ў в. Замосце (Нясвіжскі дэканат).

Вікарыем у Будслаўскую парафію накіраваны кс. Павел Трон, былы вікарый парафіі св. Сымона і св. Алены (Чырвоны касцёл) у Мінску.

*Фота Аляксандры Шчыглінскай*

## Под Гродно молния попала в костел Святого Петра и Павла. Повреждены некоторые книги

**14 августа примерно в 18.00 в костеле Святых Апостолов Петра и Павла в деревне Гожа произошло возгорание.**

По словам очевидцев, молния попала в одну из башен костела и замкнула устройство, ретранслирующее колокольный звон. На место прибыло пять пожарных расчетов. Пожар удалось погасить, но задымление осталось.

Существующее ныне здание костела Святых Апостолов Петра и Павла было возведено с 1862 по 1869 гг. Храм поражает своей строгой красотой.

В результате пожара пострадали некоторые книги и печатные издания, а также сгорела одежда ксендза. Здание костела изнутри закопчено дымом от пожара.

*newgrodno.by*





# Лічба дня – 10.
## Столькі студэнтаў залічана на першы курс духоўных семінарый у Гродне і ў Пінску



**14 жніўня ў будынку Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ў Мінску адбыўся другі тур уступнага экзамену для кандыдатаў на першы год навучання ў Вышэйшых духоўных семінарыях у Гродне і Пінску, паведамляе Catholic.by.**

Прапануем інфармацыю пра выніку другога туру ўступнага экзамену ў Вышэйшыя духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску.

Экзаменацыйныя пытанні датычыліся Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, жыцця Паўсюднага і лакальнага Касцёла, яго структуры з мэтай як найлепш ацаніць зацікаўленасць кандыдатаў у тым, як жыве Касцёл. Акрамя таго, прэтэндэнтам трэба было растлумачыць матывы свайго выбару следаваць за Хрыстом, Які кліча іх да працы ў Хрыстовай аўчарні ў якасці святароў.

**Экзамен прымала экзаменацыйная камісія ў складзе:**

**біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, старшыня камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі – старшыня камісіі;

**ксёндз Андрэй Рылка**, рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску;

**ксёндз Павел Эйсмант**, куратар 1-га курса і прадстаўнік Гродзенскай дыяцэзіі;

**ксёндз Алег Пятрашка**, духоўны айцец 1-га курса.

Пасля пісьмовай часткі экзамену кандыдаты сустрэліся з адным з чальцоў камісіі на кваліфікацыйнай размове.

Экзаменацыйная камісія, праінфармаваўшы пра сваё рашэнне кожнага дыяцэзіяльнага біскупа, з чыіх дыяцэзій паходзяць кандыдаты, і атрымаўшы іхняе блаславенне і згоду, паведамляе, што новымі навучэнцамі семінарыі ў Гродне сталі:

**Гродзенская дыяцэзія: Яраслаў Казлоўскі** (парафія Святога Юзафа, Гродна);

**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія: Аляксандр Нікіценка** (парафія Маці Божай Ружанцовай, Ракаў).

Новым навучэнцам семінарыі **ў Пінску** стаў **Павел Валуеў** (парафія Маці Божай Фацімскай, Баранавічы).

Такім чынам, разам з семінарыстамі, залічанымі ў першым туры экзаменаў, агульная колькасць студэнтаў першага курса духоўных семінарый у Гродне і Пінску склала дзесяць чалавек.

**Просім усіх людзей добрай волі падтрымаць новых семінарыстаў сваёй малітвай, а таксама няспынна маліцца ў інтэнцыі новых і святых пакліканняў да святарства.**

## Фарны касцёл у Навагрудку абвешчаны санктуарыем блаславёных мучаніц-назарэтанак



**29 ліпеня фарны касцёл Перамянення Пана ў Навагрудку быў абвешчаны санктуарыем Гродзенскай дыяцэзіі ў гонар блаславёнай Марыі Стэлы і яе дзесяці паплечніц, мучаніц з Навагрудка.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*

Урачыстае абвяшчэнне адбылося на заканчэнне святкавання 75-годдзя мучаніцкай смерці манахінь, у якім прынялі ўдзел шматлікія духоўныя і свецкія асобы і якое ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр.

Устанаўліваючы яшчэ адзін санктуарый у Гродзенскай дыяцэзіі, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч меў на мэце духоўнае дабро вернага люду, а таксама кіраваўся жаданнем пашырэння сярод духавенства, кансэкраваных асобаў і свецкіх вернікаў культу блаславёнай Марыі Стэлы і іншых дзесяці мучаніц з Навагрудка.

Новы санктуарый, дзе змешчаны рэліквіі мучаніц, будзе месцам асаблівай памяці, абвяшчэння і перадачы наступным пакаленням сведчання гераічнай любові да Бога і бліжняга, якое склалі сёстры-назарэтанкі з Навагрудка ў часы Другой сусветнай вайны.

У дэкрэце біскуп Гродзенскі выказвае надзею, што "прыклад блаславёных мучаніц і іх бязмежная вернасць Хрысту Пану і Яго Евангеллю ўзбудзіць у сэрцах сучасных хрысціян жаданне супрацоўніцтва з Божай ласкай і нястомнага ўзрастання ў асабістай святасці".

Фарны касцёл, або так званая "белая Фара" ў Навагрудку, быў пабудаваны князем Вітаўтам у гатычным стылі ў канцы XIV стагоддзя. Свой сучасны выгляд святыня набыла пасля перабудовы на пачатку XVIII стагоддзя.

У гэтым касцёле 12 лютага 1799 года быў ахрышчаны паэт Адам Міцкевіч, пра што нагадвае памятная табліца, змешчаная звонку. Менавіта ў гэтай святыні перад абразом Маці Божай ён у дзяцінстве па малітве сваёй маці быў аздароўлены ад цяжкай хваробы, пра што ўзгадвае сам паэт на самым пачатку паэмы "Пан Тадэвуш".

# У Гомелі пачалося будаўніцтва новага касцёла



**Дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец 15 жніўня, ва ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, асвяціў крыж і зямлю пад будаўніцтва аднайменнай святыні ў Гомелі.**

Парафія з такім тытулам існавала ў горадзе да 1938 года. Затым улада бальшавікоў закрыла парафію, святары былі рэпрэсаваныя, забітыя, а ў 1940 годзе касцёл, які знаходзіўся на цэнтральнай плошчы, узарвалі камуністы.

Біскуп Казімір Велікаселец, калі прыехаў служыць у Гомель, адрадзіў парафію і зарэгістраваў яе ў 2013 годзе, затым пачаў займацца справай выдзялення ўчастка для будаўніцтва святыні. Узводзіць касцёл вырашылі не на гістарычным месцы, а ў Савецкім раёне горада – на перакрыжаванні Рэчыцкага праспекта і вуліцы Аб'язной. На цэнтральнай плошчы пабудаваць святыню цяпер амаль немагчыма, ды ў гэтым і няма вялікага сэнсу.

Пакуль адзіны касцёл у горадзе знаходзіцца таксама ў цэнтры, а ў іншых раёнах Гомеля няма каталіцкіх святыняў, і вернікі вымушаны доўга дабірацца да касцёла.

Пляцоўка пад будаўніцтва новай святыні была выдзелена на ўскрайку горада, сёлета там пачаліся падрыхтоўчыя працы. Ужо выкапаны катлаван і пракладзены камунікацыі, усталяваны крыж і фігура Божай Маці, з'явіцца тут і часовая драўляная капліца. Такім чынам, касцёл будуецца праз 80 гадоў пасля закрыцця папярэдняй парафіі.

Датай асвячэння месца будоўлі касцёла Унебаўзяцця Панны Марыі была выбрана сёлетняя ўрачыстасць. Падчас набажэнства мясцовыя парафіяне маліліся аб Божым благаслаўленні будоўлі, а біскуп Казімір Велікаселец асвяціў тут зямлю. Як знак Божага благаслаўлення вернікі ўспрынялі раптоўны дождж. Роўна а 15-й гадзіне, калі павінна было распачацца набажэнства, лівень шчодра паліў зямлю. Бог сам асвяціў гэта месца, упэўнены біскуп.

– Гістарычная парафія аднаўляецца, і там, дзе ёсць вернікі, там павінна быць святая Імша, а яна павінна быць у святыні. Пытанне пра выдзяленне месца для будаўніцтва вырашалася амаль чатыры гады. І цяпер мы просім Пана, каб Ён благаславіў гэтае месца, каб тут быў дом Божы, каб людзі маглі тут маліцца. Бо мэта нашага жыцця – шанаваць Бога, а Пан будзе нас дабраслаўляць. Бацькі любяць сваіх дзяцей, а мы ўсе дзеці Пана, і Ён любіць нас, а на любоў трэба адказваць любоўю. Мы не адным хлебам жывём. Наша жыццё залежыць ад таго, як мы молімся. Адыдзем ад Бога – перастанем любіць адно аднаго, – перасцярог іерарх.

Выгляду знішчанай камуністамі святыні новы касцёл мець не будзе. Ён спраектаваны ў псеўдагатычным стылі, выцягнуты ўгору і мае 30-метровыя вежы, бо побач месцяцца шматпавярховыя дамы, якія б закрывалі сабой невысокі касцёл.

Цікава, што вуглавы камень новага касцёла ў Гомелі ў 2015 г. благаславіў Папа Рымскі Францішак.

Будзе закладзены ў падмурак і яшчэ адзін камень, які асвяціў Пантыфік – гэта невялікі каменьчык, які біскуп Казімір Велікаселец прывёз з Назарэта, роднага горада Езуса Хрыста, падчас нацыянальнай пілігрымкі ў Святую Зямлю.

Нагадаем, пакуль у 500-тысячным Гомелі ёсць толькі адна каталіцкая святыня, якая ў нядзелі і асабліва ў асноўныя ўрачыстасці часта не змяшчае ўсіх ахвотных удзельнічаць у святой Імшы. Да таго ж вернікам, што жывуць у іншых раёнах горада, цяжка дабірацца да касцёла, размешчанага на вуліцы Савецкай.

*katolik.life*

# У Лідзе адбылося благаслаўленне званоў

**15 жніўня ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе (Індустрыяльны) адбылася адпустовая ўрачыстасць.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by, тэкст;*
**Маргарыта Снапко,** *фота*

Падчас вячэрняй святой Імшы, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, былі благаслаўлёныя тры званы. Кожны звон атрымаў сваю назву.

Першы звон – самы малы, вагой 60 кг – быў названы ў гонар Вялікага Папы св. Яна Паўла ІІ, падчас пантыфікату якога была заснаваная гэтая парафія, дзе з самага пачатку служаць айцы-піяры.

Другі звон – сярэдні, вагой 100 кг – названы ў гонар святога Юзафа Каласанса, заснавальніка ордэна Піяраў, які таксама з'яўляецца апекуном лідскай парафіяльнай святыні.

Трэці звон – самы вялікі, вагой 190 кг – названы ў гонар тытулу парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Жыццё Марыі было прыгожым, як кветка

На ўрачыстасці сабралася духавенства з Лідскага дэканата і з-за яго межаў. Вернікі прынеслі ў касцёл букеты прыгожых кветак, першыя плады, лекавыя зёлкі і каласы, як гэта рабілі згодна са старадаўняй традыцыяй на працягу стагоддзяў нашы продкі. Усе разам дзякавалі Богу за сёлетні ўраджай і адначасова нагадвалі сабе, што гэта Ён дае ўсялякае дабро.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч цэлебраваў Эўхарыстыю ў інтэнцыі ўсёй парафіяльнай супольнасці. У гаміліі іерарх разважаў над духоўнай прыгажосцю Панны Марыі. "Усё Яе зямное жыццё было прыгожым, як кветка, бо ў ім не было ніякага ценю эгаізму, яно было цалкам скіравана на Бога і падпарадкавана Яго святой волі", – сказаў біскуп.

Іерарх дадаў, што Марыя без ваганняў паверыла ў тое, што паведаміў Ёй Бог, а Яе вера была проста даверам Яму Сябе – і не толькі ў хвіліны Звеставання, а на працягу ўсяго Яе жыцця. "За гэтую веру і вернасць Марыя атрымала цудоўную ўзнагароду: разам з целам і душой была ўзята на неба і там узвышана над усім стварэннем, сёння цешыцца паўнатой вечнай радасці", – адзначыў біскуп.

Кажучы пра адпустовую ўрачыстасць гэтай парафіі, іерарх звярнуў увагу, што Унебаўзяцце Марыі – заахвочванне, каб чалавек ніколі не забываў і не пагарджаў той праўдай, што з кожным днём свайго жыцця ён накіроўваецца да рубяжу зямной пілігрымкі, за якой чакае вечнасць. Марыя паказвае мэту жыцця.

Па словах біскупа, сучасны чалавек, які вельмі часта заклапочаны, абцяжараны стрэсамі, паглынуты зямнымі справамі, забывае пра тое, што найбольш важнае, што з'яўляецца сэнсам яго жыцця – пра вечнае збаўленне. "Скажам сабе шчыра: калі б мы памяталі, што наша прызначэнне – дасягненне вечнага жыцця з Богам, напэўна, шмат нашых думак, слоў, рашэнняў, учынкаў былі б іншыя", – дадаў іерарх.

Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне падкрэсліў, што Унебаўзятая Марыя паказвае сапраўдную мэту жыцця і ідзе на неба, каб нагадаць усім людзям, што неба прызначана таксама і для іх.

Біскуп падкрэсліў, што гэтая ўрачыстасць – гістарычная падзея для Лідскай парафіі, бо адбываецца благаслаўленне званоў, якія ў каталіцкай традыцыі маюць важную і ўзнёслую функцыю.

Званы заклікаюць верны люд на святую Імшу, а тых, хто не можа ўдзельнічаць у Найсвяцейшай Ахвяры, заахвочваюць духоўна злучацца з Эўхарыстыяй. "Няхай жа гэтыя званы больш умацоўваюць у нас пачуццё супольнасці, няхай набліжаюць да Бога і дапамагаюць нам штодзённа ўзрастаць у веры", – пажадаў іерарх.

Урачыстасць завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла. Пробашч парафіі а. Андрэй Агель выказаў удзячнасць усім прысутным за ўдзел і за дар супольнай малітвы.



# Хрост у католікаў і пратэстантаў: пытанне святару

*"Чаму пратэстанты хрысцяць дарослых, а католікі дзяцей?"*
*Віктар*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Чытач "Каталіцкага Весніка" задае вельмі важнае пытанне, якое насамрэч датычыць веры і яе разумення. Калі мы верым, што Хрыстус жыве і ёсць у цэнтры нашага жыцця, а Яго сакраманты з'яўляюцца крыніцамі ласкі і месцам сустрэчы з бясконцай любоўю Бога, то з радасцю прымаем старажытную практыку Касцёла, згодна з якой хрост удзяляецца як дарослым, так і дзецям. Прыняцце хросту азначае для нас праўду пра тое, што мы запісаны ў кнізе жыцця.

## "Ідзіце і навучайце ўсе народы..."

Напачатку трэба заўважыць, што ў Каталіцкім Касцёле хрост удзяляецца не толькі дзецям, але і дарослым, якія яшчэ не былі ахрышчаны ў імя Найсвяцейшай Тройцы. Такім чынам правільным будзе казаць, што католікі хрысцяць дзяцей і дарослых. У пратэстантаў – іншае разуменне сакрамантаў, а ў выніку і іншае ўспрыманне і практыкаванне веры. Навучанне Каталіцкага Касцёла грунтуецца на Святым Пісанні і Традыцыі, якая сягае пачаткаў супольнасці вернікаў і фарміравалася на працягу першых стагоддзяў хрысціянства. Касцёл працягвае выконваць наказ Хрыста: ***"Ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Святога Духа"*** *(Мц 28, 19)*, абвяшчаючы сучаснаму чалавеку словы Збаўцы: ***"Хто паверыць і ахрысціцца, будзе збаўлены, а хто не паверыць, будзе асуджаны"*** *(Мк 16, 16)*.

## Хрост – новае нараджэнне і брама збаўлення

У традыцыі Каталіцкага Касцёла хрост з'яўляецца падмуркам хрысціянскага, духоўнага жыцця ў супольнасці вернікаў і брамай, неабходнай для збаўлення *(Пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1213)*. Менавіта праз хрост чалавек сустракаецца з Богам у Найсвяцейшай Тройцы і становіцца ўсыноўленым Божым дзіцём. Інакш кажучы, дзякуючы гэтаму першаму сакраманту мы адкрываемся на дар Божага жыцця ў нас. Абмыванне хрысцільнай вадою вызваляе ад першароднага граху і надзяляе ласкай, неабходнай для збаўлення. Практыка хрысціць дзяцей вынікае з разумення неабходнасці сакраманту хросту для збаўлення: ***"Хто паверыць і ахрысціцца, будзе збаўлены"*** *(Мк 16, 16)*. Дзякуючы хросту дзіця атрымлівае адпушчэнне першароднага граху, а таксама ласку прыпадобніцца Хрысту ўжо на працягу зямнога жыцця праз ласку сакраманту. Такім чынам дзецям адкрываецца брама жыцця вечнага і ўдзяляецца ласка дзеля развіцця хрысціянскага жыцця ў супольнасці Хрыстовага Касцёла. Святы Аўгустын пра хрост дзяцей пісаў так: ***"Дзяцей прыносяць да хросту, каб яны маглі атрымаць духоўную ласку"*** *(Пар. S. Augustinus, Epist. 98, 5: PL 33, 362)*.

Ва ўводзінах да парадку хросту знаходзім вельмі яснае абгрунтаванне каталіцкай практыкі ўдзялення хросту: *"Касцёл, які атрымаў місію евангелізацыі і хрышчэння, ужо з першых стагоддзяў хрысціў не толькі дарослых, але таксама і немаўлятаў. Бо словы Пана:* ***"Калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Божае Валадарства"*** *(Ян 3, 5), ён заўсёды разумеў такім чынам, што дзяцей нельга пазбаўляць хросту, паколькі іх хрысцяць у веры таго самага Касцёла, якую абвяшчаюць бацькі, хросныя ды іншыя прысутныя. Менавіта яны прадстаўляюць як мясцовы Касцёл, так і ўсю супольнасць святых і вернікаў – Касцёл, нашую Маці, Якая ўся нараджае ўсіх і кожнага паасобку" (Парадак хросту дзяцей, Уводзіны, 2. https://catholic.by/3/liturgy/liturgical-books/4223-paradak-khrostu-dzyatsej).*

## Дух Святы вядзе па жыцці

У Каталіцкім Касцёле, падобна як і ў Праваслаўнай Царкве, хрост удзяляецца дзецям у перакананні, што вера – гэта найвялікшы дар, які бацькі могуць дапамагчы атрымаць сваім дзецям. У катэхезе, прысвечанай таямніцы хросту, Святы Айцец Францішак сказаў: *"Некаторыя людзі думаюць: для чаго хрысціць дзіця, якое нічога не разумее? Мы думаем, што яно вырасце, зразумее і само спытае пра хрост. Але гэта азначае адсутнасць даверу да Святога Духа, бо калі мы хрысцім дзіця, у яго ўваходзіць Святы Дух і ад самага маленства дапамагае ўзрастаць у ім хрысціянскім цнотам, якія потым расквітнеюць. Заўсёды трэба даваць гэту магчымасць кожнаму, усім дзецям – мець унутры сябе Святога Духа, Які будзе весці іх па жыцці. Не забывайцеся хрысціць дзяцей!" (Францішак, Хрост – гэта другі Дзень нараджэння. http://be.radiovaticana.va/news/2018/04/11/пантыфік_хрост_–_гэта_другі_дзень_нараджэння/1370556).*

Канешне, нельга забываць, што хоць сакраманты ўдзяляюць Божую ласку, жыццё паводле яе пладоў патрабуе супрацоўніцтва з боку самога чалавека. У якасці заканчэння прапаную яшчэ адно выказванне Папы з узгаданай ужо катэхезы, у якой Францішак падкрэсліў, што хрост заўсёды з'яўляецца шчырым дарам – як для дарослых, так і для немаўлят: *"Як адбываецца з зернем, поўным жыцця, так і гэты дар укараняецца і прыносіць плён у глебе, насычанай верай. Абяцанні хросту, якія мы штогадова абнаўляем у Пасхальную Вігілію, павінны абнаўляцца штодзённа, каб хрост "ахрысціяніў" тых, хто яго атрымаў, робячы іх "Alter Christus" (Тамсама).*

Спадзяюся, што адказ на пытанне хоць часткова дапамог чытачам яшчэ больш зразумець каштоўнасць сакраманту хросту і яго пладоў для кожнага, хто хрост прымае.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вацлава Скрага (***Падсвілле),* **Эма Бугаева** *(Лынтупы),* **парафіяне з Браслава, Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Парфяновіч А.І.** *(Браслаў),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле),* **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель),* **Святлана Ахрэмчык** *(Лугі),* **Ванда Дзенісенка** *(Гомель),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Эма Козел** *(Докшыцы),* **Ганна Гінько** *(Глыбокае),* **парафіяне з Дуброўна, Ленгіна Астаноўка** *(Атокі),* **Эмілія Стакло** *(Юльянова),* **Феакцістава Л.М.** *(Камарова),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Тамашэвіч Б.С.** *(Лёзна),* **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел),* **Вольга Мятла** *(Сталіца),* **Жук С.В.** *(Мосар),* **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына),* **Валерый Ракуцкі** *(Браслаў),* **Ванда Дзенісенка** *(Гомель),* **Ян Сапель** *(Браслаў),* **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае),* **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына),* **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава),* **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2),* **Леанід Грыбач** *(Гомель),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Марыя Харнікава** *(Навасады),* **Рамуальда Асетрова** *(Радзюкі),* **Казімір Бужэвіч** *(Крапіўнікі),* **Міхайлоўская Л.К.** *(Мураваная Ашмянка),* **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы),* **Эма Бугаева** *(Лынтупы),* **Яніна Шэнда** *(Зорка).*

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў па ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Мастацкі пленэр у Глыбокім:


Галіна Флікоп-Світа

**Сёлета з 29 ліпеня па 3 жніўня ў Глыбокім праходзіў мастацкі пленэр, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння выбітнага і самабытнага беларускага мастака Язэпа Драздовіча.**

**Галіна Флікоп-Світа**, *арганізатар пленэру*

Удзельнікамі і арганізатарамі гэтай мастацкай падзеі выступілі выпускнікі 2007 года кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вера Каўзановіч, Ніна Маргаева, Кацярына Малама, Таццяна Анушка і аўтар гэтых радкоў – Галіна Флікоп-Світа.

Шаноўнага чытача хачу пазнаёміць бліжэй з сябрамі нашай творчай суполкі.

**Вера Каўзановіч** – графік-акварэліст, куратар Міжнароднай супольнасці акварэлі ў Беларусі "International Watercolor Society" (з 2016 г.); арганізатар мастацкага пленэру нашай суполкі ў в. Нароча Вілейскага р-на ў 2014 г. Нарадзілася ў 1984 г. у г. Вілейка Мінскай вобласці. З 2004 г. удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выстаў, конкурсаў і праектаў у Беларусі, Расіі, Албаніі, Славакіі, Італіі і інш. У 2005 – 2008 гг. – сябра Моладзевага творчага аб'яднання мастакоў-акварэлістаў "ПраСвет". У 2008 г. у мінскай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" адбылася персанальная выстава сумесна з Нінай Маргаевай "Дыярыуш". У 2018 г. атрымала I месца на Міжнародным фестывалі "MiniWatercolor" (Кіеў, Украіна). Яе творы знаходзяцца ў Музейным комплексе гісторыі і культуры Аршаншчыны (г. Орша), Міжнародным музеі акварэлі (International Watercolor Museum) (г. Фабрыяна, Італія). Удзельнік мастацкіх пленэраў нашай суполкі ў 2007 – 2012 гг., 2014 – 2018 гг. Жыве ў Вілейцы.

**Ніна Маргаева** – жывапісец-акварэліст, педагог, арт-тэрапеўт; аўтар праграм, курсаў і майстар-класаў па выяўленчым мастацтве з выкарыстаннем сучасных методык выкладання; мастацкі кіраўнік прыватнай майстэрні "PLOT" у Мінску, арганізатар выніковых выстаў студыі, мастацкіх летнікаў і пленэраў. Нарадзілася ў 1984 г. у Мінску. З 2004 г. – удзельнік рэспубліканскіх выстаў. У 2005 – 2008 гг. – сябра Моладзевага творчага аб'яднання мастакоў-акварэлістаў "ПраСвет". У 2007 г. у філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь у Доме-музеі Ваньковічаў адбылася персанальная выстава "Мегаполіс". У 2008 г. у мінскай галерэі "Універсітэт культуры" прайшла выстава сумесна з Верай Каўзановіч "Дыярыуш". У 2016 г. – мастак метафарычнай псіхалагічнай калоды "Вытокі". Удзельнік усіх мастацкіх пленэраў з 2007 г. Жыве ў Мінску.

**Таццяна Анушка** – мастак выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; арганізатар пленэраў нашай суполкі ў 2011 г. у в. Дзягілі Мядзельскага р-на Мінскай вобласці, у 2012, 2016 і 2017 гг. у в. Казлы Вілейскага р-на, у 2015 г. у в. Сакалы Вілейскага р-на. Нарадзілася ў 1984 г. у в. Дзягілі Мядзельскага р-на. У 2007 г. удзельнічала ва ўніверсітэцкіх выставах, у 2014 – 2017 гг. Прымала ўдзел у выставах-кірмашах "Млын", "Веснавы букет", "Свята Рыбы". Аўтар твораў у тэхніках мастацкага роспісу, саломапляцення, лепкі з пластыку; займаецца вырабам інтэр'ерных рэчаў з джуту і лёну. Удзельнік усіх мастацкіх пленэраў нашай суполкі з 2010 г. Жыве ў Мінску.

**Кацярына Малама** – фотамастак, акварэліст, мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; арганізатар пленэра нашай суполкі ў 2013 г. у в. Старыя Пескі Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобласці. Нарадзілася ў 1984 г. у г. Бяроза Брэсцкай вобласці. У 2007 г. удзельнічала ва ўніверсітэцкіх выставах, у 2008 – у выставах у в. Дабраўляны і г. Смаргоні. У 2009 г. у Палацы дружбы народаў у Мінску ў межах праекту "У пошуках сваіх каранёў і сябе сучаснай" адбылася персанальная фотавыстава "Я – сапраўдная", на якой былі прадстаўлены жаночыя партрэчы. Аўтар шэрагу твораў мастацкага тэкстылю і пэчварку, стваральнік аўтарскіх лялек для лялечнага тэатра г. Бярозы і аўтар сувеніраў для вытворчасці ў Дзіцяча-юнацкім спартыўна-эстэтычным цэнтры ў г. Бярозе ў 2010 – 2011 гг. Удзельнік мастацкіх пленэраў нашай суполкі ў 2008, 2011 – 2014, 2016, 2018 гг. Жыве ў Мінску.

**Галіна Флікоп-Світа** – кандыдат мастацтвазнаўства, даследчык сакральнага беларускага мастацтва, мастак-графік; аўтар больш як 80 навуковых публікацый па гісторыі беларускага мастацтва ў выданнях Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Польшчы, Туркменістана. Арганізатар пленэра-вандроўкі "Шляхамі Напалеона Орды" ў 2007 г. і мастацкага пленэра з удзелам сябраў Беларускага саюза мастакоў "Успамін пра Дабраўляны" ў 2008 г., арганізатар пленэраў у в. Беражное Столінскага р-на Брэсцкай вобласці ў 2010 г. і пленэра ў г. Глыбокае ў 2018 г. Нарадзілася ў 1984 г. у г. Ліда Гродзенскай вобласці. У 2007 – 2008 гг. удзельнічала ў мастацкіх выставах у Пінску, Варацэвічах (Іванаўскі р-н), Дабраўлянах (Смаргонскі р-н) і Смаргоні. Удзельнік мастацкіх пленэраў 2007, 2008, 2010 – 2012 гг., 2014 – 2018 гг. Жыве ў Мінску.

Пералічаныя творцы, а таксама яшчэ адзін сябар нашай суполкі – Уладзімір Матораў, які гэтым разам далучыўся ў канцы ў якасці гледача выніковай выставы, ужо на працягу адзінаццаці гадоў ладзяць такога кшталту мастацкія праекты. Традыцыя штогод праводзіць тыднёвыя пленэры вядзецца намі з часу заканчэння ВНУ. Разам з тым, сёлетняя мастацкая падзея з'яўляецца для нас знакавай, бо пленэр прайшоў на новым арганізацыйным узроўні і ў крыху новым фармаце. Аднак перш чым перайсці да распаведу пра яго, трэба колькі словаў сказаць пра нашыя папярэднія праекты, што заклалі падмурак да гэтай дзесяцігадовай традыцыі, якую мы пастараемся працягваць і надалей.

Так, у 2007 годзе адбыўся першы пленэр, які быў прысвечаны 200-гадоваму юбілею з дня нараджэння вядомага беларускага графіка Напалеона Орды. Пленэр праходзіў у фармаце вандроўкі па некаторых з мясцінаў, некалі наведаных названым творцам XIX ст. Мы пабывалі ў Слоніме, Ружанах, Косаве і Пінску. У апошнім з гарадоў у Доме культуры была зладжана аднадзённая выстава – прамежкавая прэзентацыя нашых творчых вынікаў. Там жа да нас далучыўся жыхар Пінска, выбітны графік Яўген Шатохін, а таксама прыехаў з Мінска загадчык кафедры, на якой мы навучаліся, вядомы акварэліст Уладзімір Рынкевіч. У такім складзе мы накіраваліся на радзіму Напалеона Орды ў в. Варацэвічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе ў мастацкай галерэі на месяц размясцілі для экспанавання свае эцюды і замалёўкі. Вынікам усяго праекту стала выстава ў Мінску ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры", дзе ўжо былі прадстаўлены творы, выкананыя на аснове пленэрных работ.

Амаль у такім жа фармаце быў зладжаны і другі наш пленэр, які праходзіў у 2008 годзе на радзіме графіка Казіміра Бахматовіча ў в. Дабраўляны Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці і быў прысвечаны 200-годдзю з дня яго нараджэння. Праўда, гэтым разам удзельнікі, сярод якіх былі і пералічаныя на пачатку артыкула творцы, і студэнты-мастакі, і сябры Беларускага саюза мастакоў не параязджалі з месца на месца, а малявалі ў адной вёсачцы. Сярод апошніх – згаданыя вышэй Уладзімір Рынкевіч і Яўген Шатохін, а таксама акварэлісты Вячаслаў Паўлавец, Мікалай Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў. Прэзентацыя вынікаў была прадстаўлена на свяце вёскі Дабраўляны, пасля чаго эцюды і замалёўкі накіраваліся ў раённы цэнтр, дзе ў гарадскім Доме культуры экспанаваліся каля двух месяцаў. Гэтым разам, як і ў 2007 годзе, заключным этапам стала выстава ў Мінску ў галерэі "Універсітэт культуры", дзе былі прадстаўлены творчыя работы, напісаныя на аснове натурных замалёвак. Арганізатарам гэтых двух пленэраў выступіў аўтар гэтых радкоў.

У 2009 годзе, паводле прыкладу папярэдніх праектаў, на Аршаншчыне – радзіме гравёра Міхала Падалінскага – быў зладжаны Рэспубліканскі пленэр "Нашчадкі Міхала Падалінскага", арганізатарам якога выступіў Уладзімір Рынкевіч пры падтрымцы Беларускага саюза мастакоў. Сярод удзельнікаў былі і прадстаўнікі нашай творчай суполкі Вера Каўзановіч, Ніна Маргаева, Уладзімір Матораў. Вынікі пленэру былі прадстаўлены ў мінскім Палацы мастацтваў. Разам з тым для нас гэты праект паказаў неабходнасць пераходу да больш камернага фармату пленэраў.

З 2010 года нашыя пленэры пачалі праходзіць у складзе адных і тых жа ўдзельнікаў, імёны якіх ужо прыведзены на пачатку артыкула. У мастацкім плане такія творчыя выезды ў новыя мясціны далі нам вельмі шмат, бо гэта не толькі чарговы досвед працы на натуры, але і незабыўныя ўражанні, якія натхняюць і садзейнічаюць узнікненню мастацкіх вобразаў. Гэта размовы пра мастацтва і мастакоў, пра кампазіцыю і каларыт, пра фарбы і пэндзлікі, пра жыццё і мары. Для нас гэта не толькі магчымасць памаляваць, але і нагода сустрэцца з аднадумцамі, некаторыя з якіх цяпер жывуць у іншых гарадах. ⇨


Кацярына Малама, фота

# Юбілею Язэпа Драздовіча прысвячаецца!

⇨ Цяжка сказаць, што ў дадзеным выпадку больш садзейнічала творчаму развіццю: праца над эцюдамі і замалёўкамі ці размовы пра мастацтва з сябрамі, з якімі разам прайшлі цудоўныя студэнцкія гады ў вышэйшай мастацкай навучальнай установе? Бо для творцы важным з'яўляецца не толькі працэс малявання, але і шлях асэнсавання, які праходзіць праз абмеркаванне і аналіз сваіх і чужых твораў.

Пленэры, якія мы ладзілі з 2010 і па 2017 гг. уключна, не былі прымеркаваныя да пэўных дат і падзей з нашай гісторыі мастацтва і не завяршаліся выніковымі выставамі. Мэтай гэтых творчых вандровак было найперш назапашванне матэрыялу, паглыбленне навыкаў працы на натуры, атрыманне новага досведу і новых уражанняў, знаёмства з рознымі мясцінамі Беларусі. У 2010 годзе мы малявалі ў в. Беражное Столінскага р-на Брэсцкай вобласці; у 2011 годзе – у в. Дзягілі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці; у 2012 годзе – у в. Казлы Вілейкага раёна Мінскай вобласці, у 2013 годзе – у в. Старыя Пескі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці; у 2014 – 2017 гг. – у вёсках Нароча, Сакалы і двойчы ў в. Казлы Вілейскага р-на Мінскай вобласці.

На некаторыя з гэтых мастацкіх выездаў да нас далучаліся нашыя сем'і: мужы і дзеці. Прычым дзеці таксама захапляліся творчым працэсам і станавіліся паўнавартаснымі ўдзельнікамі пленэру. А нашыя мужчыны звычайна ўскладалі на сябе вырашэнне побытавых пытанняў, каб мы мелі больш часу непасрэдна на мастацкую працу. Сёлета ў якасці падтрымкі з намі знаходзіўся Іван Світа, які выступіў фотакарэспандэнтам і зафіксаваў на здымках наш творчы працэс.

А вось у 2018 годзе мы вярнуліся да вытокаў нашай пленэрнай дзейнасці: прымеркавалі пленэр да юбілею з дня нараджэння Язэпа Драздовіча, зладзіўшы яго ў Глыбокім, дзе ён быў ахрышчаны ў касцёле Святой Тройцы. Сімвалічна, што мы – удзельнікі пленэру – і жылі пры гэтым храме – у былой плябані. Карыстаючыся магчымасцю, хочацца падзякаваць ксяндзу Мікалаю, які падтрымаў нашую творчую ініцыятыву і пасяліў нас ва ўтульным будыначку пры касцёле.

Наш пленэр пачаўся са знаёмства з Глыбокім. Дзякуючы выдатнаму знаўцу гэтых мясцінаў, настаўніку Глыбоцкай дзіцячай мастацкай школы імя Язэпа Драздовіча Юрыю Калбасічу нам удалося пабываць усюды: ад храмавых сутарэнняў да вежы-званіцы, зазірнуць ва ўтульныя старыя дворыкі і палюбавацца іканапісам у саборы Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, абысці возера Кагальнае і пашпацыраваць па беразе ракі Бярэзвіцы, наведаць архітэктурныя ўзоры польскага канструктывізму і пагуляць ля хат у закапанскім стылі. З такой глыбокай экскурсіі па Глыбокім мы даведаліся і пра гісторыю паселішча, і пра выбітных людзей, і пра найбольш значныя культурныя помнікі. Гэта дазволіла нам лепш адчуць горад, прасякнуцца яго атмасферай, зразумець тутэйшых жыхароў. Акрамя таго, гэта дапамагло нам у пошуку матываў для эцюдаў і замалёвак.



**Удзельніцы пленэру на званіцы сабора ў Глыбокім.** *Фота Івана Світы*

У сваіх натурных работах мы імкнуліся перадаць і цікавы рэльеф мясцін, дзе на ўзгорках узвышаюцца храмы і праглядаюцца з усіх бакоў і кірункаў; і рытмы стрэх хатаў, якія добра бачныя з вышыні, і гульню святла і ценю, што выразнаназіралася ў гэтыя спякотныя дні, і маляўнічыя заходы сонца над возерам Кагальным, а таксама адлюстраванні дрэваў у вадзе сажалкі мясцовага дэндрапарку. Разнастайнасць матываў і вобразаў, якая нас напаткала ў Глыбокім, пасадзейнічала нашай надзвычай плённай працы і прывяла да добрых вынікаў.

Заключны прагляд быў зладжаны ва ўтульным будыначку пры касцёле, і на ім акрамя нас – удзельнікаў пленэру – у якасці гледачоў прысутнічалі настаўнікі Глыбоцкай дзіцячай мастацкай школы імя Язэпа Драздовіча, а таксама прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. Фактычна закрыццё пленэру прайшло ў фармаце выставы-прэзентацыі. Мы хочам выказаць шчырую падзяку ўсім, хто праявіў цікавасць да нашай творчасці!

Наступны этап, над якім мы ўжо пачалі інтэнсіўна працаваць, – напісанне творчых работ на аснове натурных замалёвак. Гэтыя працы разам з пленэрнымі эцюдамі і накідамі мяркуецца выставіць у Глыбокім сёлета восенню.


Вера Каўзановіч


Таццяна Анушка


Ніна Маргаева

# Росіца: падзяка Богу за прыклад мужнай веры



**3 і 4 жніўня ў Росіцы ўшанавалі памяць мучаніцкай смерці блаславёных айцоў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*

З розных куткоў Беларусі з'ехаліся вернікі, каб прыняць удзел ва ўрачыстасці. Таксама ў Росіцу прыйшлі пілігрымкі з Полацка – 58 асобаў, з Друі – 105 чалавек, прыехалі на роварах з Барысава – 11 пілігрымаў, а з Браслава – 15 байкераў.

На парозе святыні пілігрымаў сустрэў апякун санктуарыя а. Чэслаў Курачка МІС. А 18-й гадзіне адбылася св. Імша для пілігрымаў, якую цэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. У святочнай Літургіі таксама прыняў удзел Апостальскі візітатар Грэка-каталіцкай Царквы архімандрыт Сяргей Гаек.

"75 гадоў прайшло з моманту ахвяры жыцця каля двух тысяч чалавек. Сёння мы дзякуем Богу за прыклад мужнай веры айцоў-марыянаў, якія маглі пазбегнуць смерці, ратаваць сваё жыццё, але, адчуваючы адказнасць за даручаных ім людзей, за слова Божае, якое ім абвяшчалі, пажадалі застацца разам. Гэты нязгасны прыклад мужнай веры вельмі патрэбны кожнаму з нас. Прысутнасць у росіцкай святыні такой вялікай колькасці маладых шчаслівых твараў з'яўляецца найлепшым знакам таго, што ахвяра мучанікаў, іх прыклад не засталіся дарэмнымі", – сказаў на самым пачатку Віцебскі ардынарый.

Гамілію для пілігрымаў прамовіў а. Канстанцін Анашка МІС, які звярнуў увагу на сімвал пілігрымавання, на ахвяры і інтэнцыі кожнага пілігрыма, а таксама распавёў пра свае самыя шчаслівыя тры хвіліны шляху да Росіцы, калі перад уваходам у вёску "сцяна" дажджу спасцігла пілігрымаў.

Вернікі прынялі ўдзел у многіх набажэнствах, сярод якіх былі Нешпары за памерлых, Акафіст да мучанікаў, малітва праслаўлення, Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі, Літургія ўсходняга абраду, Святы Ружанец.

Пасля святой Імшы апоўначы адбылася працэсія на Пляц мучаніцтва айцоў Юрыя і Антонія. "Прыходзім сюды прасіць пра заступніцтва блаславёных пакутнікаў з Росіцы, каб не паўтарылася падобная трагедыя. Не толькі ў яе такім жахлівым увасабленні, калі забіваецца вялікая колькасць людзей. Сёння мы жывём з вамі ў свеце, які зноў нясе такую пагрозу. Кожны раз чуем пра тыя войны, якія працягваюцца і зноў узнікаюць у свеце. Зноў пагражае небяспека трэцяй сусветнай вайны.

Хто ведае, каб не малітва людзей, якія шчырым сэрцам шукаюць Бога, ці не надышла б яна ўжо? Мы прыходзім сюды, каб прасіць Бога ў той інтэнцыі ўшанавання людской годнасці, адвагі бараніць гэту годнасць сёння, у сучасным свеце, бараніць людское жыццё ад самага яго пачатку да натуральнага канца. І сёння гэта для нас заданне, наш абавязак.

Прыходзячы сюды і гледзячы на знак крыжа, які тут стаіць, мы павінны ўсвядоміць сабе ў чарговы раз, што гэта ёсць знак перамогі. Мы просім сёння тут, каб і мы, вернікі 21 стагоддзя, былі моцныя на дарозе да Бога, моцныя верай, моцныя надзеяй, моцныя любоўю", – на заканчэнне малітвы прамовіў біскуп Алег Буткевіч.

Пасля працэсіі вернікі распачалі Крыжовы шлях вакол святыні.

# Агульнадыяцэзіяльня сустрэча "Маргарытак"

**У суботу, 11 жніўня, упершыню адбылося агульнадыяцэзіяльнае спатканне ўдзельнікаў апостальскага руху "Маргарытка". Сустрэча прайшла ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*

Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і ружанцовая малітва распачалі ўрачыстасць. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ардынарый маліўся ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў малітоўнага руху "Маргарытка" і за ўсіх пакліканых да Божай службы.

"Вы ахвяравалі частку свайго жыцця, свайго сэрца малітве за святароў. Гэта вельмі важная рэч. Ад імя ўсіх тых, хто прабывае ў вашых інтэнцыях, выказваю падзяку, дзякую Пану Богу, што натхніў вас на гэтую вельмі важную Божую справу, – сказаў іерарх і заклікаў да далейшай малітвы. – Бо без малітвы чалавек застаецца слабы. Каго Бог кліча ісці Сваім шляхам, той найбольш патрабуе дапамогі, падтрымкі і малітвы. Гэта вялікая моц, якую вы сваёй малітвай удзяляеце тым, каго Бог ставіць на падсвечніку, каб свяціць Божай ласкай".

"Маргарытак" у Віцебскай дыяцэзіі ёсць шмат. На першае спатканне прыбыла толькі некаторая іх частка. Біскуп Алег падзяліўся: з самай раніцы ён бачыў знак, што тут павінна адбыцца Божая справа, бо яшчэ з учорашняга дня ўзніклі перашкоды і нават мясцовыя айцы-францішкане захварэлі і знаходзяцца ў шпіталях. "Злы дух розным спосабам спрабуе выбіць чалавеку жаданне малітвы. Але гэта добры знак, што павінна адбыцца штосьці вельмі важнае. Перад усім падтрымка тых, хто пажадаў зрабіць надзвычай важны крок – прысвяціць свой час малітве за пакліканых. Мы жывём у тым свеце, які цалкам не спрыяе духоўнасці чалавека. Мы маем магчымасць захаваць тое добрае, што не было знішчана, і адрадзіць гэта. Таму злы дух бунтуе, бо мае перашкоду. Там, дзе ёсць малітва, там ёсць Бог (…) Кожны хрысціянін мае ўладу над злым духам, трэба толькі яе выкарыстоўваць. Гэтая ўлада перадусім павінна праяўляцца ў праслаўленні Бога. Злы дух не можа знесці хвалы Божай. Таму гэтая малітва для нас ёсць паратунак".

Далей іерарх паразважаў над формай малітвы, яе практыкай і "эфектыўнасцю", над паглыбленнем сваёй сувязі з Богам.

На заканчэнне Імшы вернікі з Шаркаўшчыны падзякавалі біскупу Алегу за сустрэчу, за магчымасць спатканца і разам памаліцца.

"Гэта сапраўды вялікая ласка! Будуць пэўныя перашкоды: і знешнія, і ўнутраныя. Няхай Бог дае вытрымку на гэтай дарозе, бо разам з вамі мы можам дайсці да Божага Валадарства. Ніколі не трацьце надзеі, не трапляйце ў роспач", – падтрымаў біскуп Алег і заклікаў памятаць, што Пан Бог чувае ў нашых інтэнцыях.

Пасля малітоўнай часткі ўсе чальцы руху змаглі падсілкавацца і паразмаўляць, а затым наведалі музей св. Максіміліяна Кольбэ і паглядзелі "Батлейку".

На развітанне біскуп Алег выказаў надзею, што падобныя сустрэчы павінны стаць добрай традыцыяй.

**З гісторыі.** Назва малітоўнага руху "Маргарытка" паходзіць ад імя незвычайнай асобы – Маргарэт О'Донэл. Ва ўзросце 13 гадоў яна захварэла на палеамеліт і наступныя 27 гадоў свайго жыцця правяла ў нерухомасці. Хваробу сваю прыняла як пакліканне да малітвы. Яна пачала маліцца і ахвяраваць свае пакуты за ўсіх, хто да яе звяртаўся.

Кожная "Маргарытка" складаецца з сямі асобаў, якія ў вызначаны дзень тыдня моляцца ў інтэнцыі абранага імі канкрэтнага святара альбо манахіні.

Сімвалам малітоўнага руху з'яўляецца маленькая палявая кветачка-рамонак, якая азначае самаахвярнасць, прастату і адзінства. Самае галоўнае, што Маці Божая падчас аб'яўленняў у Міжгор'і неаднаразова са слязамі на вачах заклікала маліцца за святароў, заклікала іх самых больш верыць і штодзённа маліцца на Ружанцы. Найсвяцейшая Маці прагне, каб для кожнага святара знайшлося месца ў сэрцах вернікаў, у іх штодзённай малітве, такім чынам набываючы неабходную духоўную абарону.

У руху "Маргарытка" ўсё павінна быць простым і шчырым: той, хто свядома ўключыўся ў гэтую форму апекі, ахвяруе на працягу свайго жыцця адзін дзень на тыдзень у інтэнцыі абранага святара альбо законнай сястры, асабліва памятаючы пра гадавіну святарскіх пасвячэнняў ці законных шлюбаў.



# Урачыстасці ў Браславе ўзначаліў французскі біскуп Дамінік Рэ

**Урачыстасці Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе, якія прайшлі ў гэтым годзе 17 і 18 жніўня, былі вельмі насычанымі малітвай.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*



Распачалося святкаванне вечаровай Імшой у пятніцу разам з пілігрымамі, якія пешшу (Глыбокае і Пагошча) і на роварах (Дзеркаўшчына і Паставы) прыбылі ў Санктуарый. Узначаліў Эўхарыстыю дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Падчас Літургіі быў удзелены сакрамант канфірмацыі 59 вернікам з Віцебскай дыяцэзіі.

Малітва ў касцёле трывала на працягу вечара і ўсёй ночы. Айцец Аляксандр Жарнасек MIC правёў канферэнцыю і малітву праслаўлення Госпада ў Найсвяцейшым Сакраманце. Затым грэка-каталіцкі хор праспяваў Акафіст да Найсвяцейшай Багародзіцы.

У 23.30 распачалася працэсія святла з ружанцовай малітвай па вуліцах горада. Апоўначы св. Імшу ўзначаліў арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.

Галоўную Імшу 18 жніўня на палявым алтары ўзначаліў біскуп Фрэжуса і Тулона (Францыя) Дамінік Рэ. Урачыстую Эўхарыстыю канцэлебравалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч і шматлікія святары не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і з іншых куткоў Беларусі. На Імшы прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу ў Рэспубліцы Беларусь, мясцовай і абласной улады.

На самым пачатку са словамі прывітання да ўсіх прысутных звярнуўся біскуп Віцебскі: "Мы ідзём да Цябе, Валадарка нашых сэрцаў, маладых сэрцаў, які прагнуць, шукаюць Бога і адкрытыя на Яго ласку. Адсюль надзея маладосці, якую дае нам Езус Хрыстус, народжаны з Найсвяцейшай Панны Марыі". Іерарх прывітаў усіх пілігрымаў, якія пешшу і на роварах прыбылі ў Браслаў, а таксама ўсіх вернікаў з розных куткоў Беларусі і з-за мяжы і запрасіў да супольнай малітвы.

У сваёй гаміліі французскі біскуп Дамінік звярнуў увагу на тры асноўныя прынцыпы, якім Маці Божая вучыць нас на шляху да Свайго Сына: адкрытасці перад Ім, самаахвярнасці і адзінству.

У гэты ж дзень біскуп Алег Буткевіч аддаў у апеку ўсю Віцебскую дыяцэзію Маці Божай Валадарцы Азёраў, прачытаўшы Акт прысвячэння.

Урачыстую Літургію ўпрыгожыў хор, што прымаў удзел у Школе касцельнага спеву пад кіраўніцтвам арганістаў браслаўскай святыні Іны Сапун і мінскай архікатэдры Уладзіміра Неўдаха.

Пасля апостальскага благаслаўлення прысутных біскупаў словы віншавання з нагоды ўрачыстасці скіраваў старшыня аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцей Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Міхаіл Даніленка.

# Біскуп Алег Буткевіч удзяліў дыяканскае пасвячэнне семінарысту з Мёраў

**15 жніўня 2018 года ў дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў касцёле ў Мёрах адбылася вялікая ўрачыстасць.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*



Вернікі адзначылі не толькі парафіяльны фэст. У гэты дзень дыяканскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча атрымаў клерык Уладзіслаў Шарковіч. Семінарыст паходзіць з Мёрскай парафіі. Ён паспяхова скончыў вучобу ў Вышэйшай духоўнай семінарыі св. Тамаша Аквінскага ў Пінску.

На самым пачатку Літургіі біскуп Алег заклікаў прысутных даручыць Маці Божай Унебаўзятай разам з клопатамі, цяжкасцямі і радасцямі асобу клерыка Уладзіслава. "Просім аб ласцы трываласці для яго, каб быў знакам Божай прысутнасці на гэтай зямлі, быў тым, праз каго Езус у гэтым свеце вядзе да свайго Валадарства".

На ўрачыстай св. Імшы разам з Віцебскім ардынарыем у інтэнцыі кандыдата на дыяканату маліліся кс. Андрэй Рылка, рэктар Пінскай семінарыі, духоўны айцец Аркадзь Куляха, святары, якія паходзяць з мясцовай парафіі, і тыя, хто дапамагаў у дарозе паклікання, клерыкі з Пінскай семінарыі.

Пасля Літургіі слова пробашч парафіі кс. Кшыштаф Мянкіна звярнуўся да біскупа з просьбай удзяліць пасвячэнне дыяканату і засведчыў, што кандыдат падрыхтаваны і гатовы прыняць пасвячэнне.

Гамілію прамовіў пастыр дыяцэзіі. Іерарх прыгадаў, што ў Новым Запавеце функцыя дыяканаў заключалася ў абслугоўванні сталоў. Потым яна ператварылася ў больш літургічную. Тым не менш, гэтае заданне – бачыць перад сабой чалавека ў патрэбе – застаецца. І між іншым на тым, хто робіць першыя крокі да святарства.

Святое Пісанне падае прыклады веры і мужнасці дыяканаў. Першамучанік Стэфан перад абліччам смерці не адрокся ад веры, і Бог даў яму ласку ў апошнія хвіліны зямнога жыцця ўбачыць адкрытае неба. Дыякан Лаўрэнцій прыняў мучаніцкую смерць, абараняючы касцёл. Ён у апошнюю хвіліну свайго жыцця дапамагаў бедным і тым, хто меў патрэбу. "Такіх прыкладаў на працягу гісторыі было шмат. Але ў чым заключаецца сутнасць таго, што мы называем святарствам? Шлях да Бога ляжыць праз знакі, якія пакінуў Езус. Пачынаючы ад сакраманту хросту. Але вельмі важнай рэччу з'яўляецца сведчанне чалавека, — падкрэсліў біскуп Алег і, звярнуўшыся да семінарыста Уладзіслава, заклікаў памятаць: – Тое, што будзе найбольш прамаўляць, – гэта жыццё, вера, якая павінна дапамагаць убачыць і прыняць тую праўду, каторую дае нам Святое Пісанне. Хто такі святар? Той, хто жыве ў гэтым свеце, з усімі цяжкасцямі, спакусамі і выпрабаваннямі, але мае абавязак сэрцам прыналежаць да Божага Валадарства. Прыналежнасць сэрцам павінна быць бачная ў жыцці".

На заканчэнне прамовы біскуп Алег пажадаў кл. Уладзіславу, каб той адважыўся быць паслухмяным натхненню Духа Святога, каб адважыўся быць прыкладам, пазбаўляючыся сваёй волі.

Наступнай часткай Літургіі сталі абяцанні, якія кандыдат складае на рукі біскупа. Потым прысутныя маліліся Літаніяй да ўсіх Святых, падчас чаго семінарыст ляжаў крыжам перад алтаром. Затым адбылося ўскладанне рук і малітва. Дыякан, апрануўшы стулу і дальматыку, атрымаў Евангелле з рук біскупа і знак супакою.

Напрыканцы словы ўдзячнасці да прысутных святароў, бацькоў і вернікаў скіраваў новапасвечаны дыякан Уладзіслаў.

З нагоды парафіяльнай урачыстасці адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманта і прайшла працэсія вакол касцёла. Пасля малітоўнай часткі святкаванне працягнулася на вуліцы пад гукі музыкі і спевы моладзевага гурта.

# Каляндар на верасень

**8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксаваная толькі ў касцельным паданні, каторае расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім –з роду цара Давіда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзеная Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва. Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час названая падзея была ўключана ў касцельны каляндар.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

У гэты дзень мы праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўляецца побач з імем Езуса.

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, у якім устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем I.

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.

**21 верасня – успамін св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**

Святы Вінцэнт дэ Поль нарадзіўся ў Паўднёвай Францыі ў 1581 г. у беднай сялянскай сям'і. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў 1600 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Праз пяць гадоў ён быў захоплены піратамі і тры гады правёў у рабстве ў Тунісе. У 1617 г. святы Вінцэнт прысягнуў да канца свайго жыцця служыць бедным і ў тым жа годзе арганізаваў Брацтва міласэрнасці – супольнасць свецкіх сясцёр. Праз тры гады ён заснаваў мужчынскае таварыства служыцеляў бедных. З мэтай павышэння ўзроўню ўнутранага жыцця духавенства ўвёў практыку рэкалекцый перад пасвячэннем і заснаваў духоўныя семінарыі пад кіраўніцтвам святароў-місіянераў. Паколькі сядзіба супольнасці Місій знаходзілася побач з парыжскім касцёлам святога Лазара, законнікаў пачалі называць лазарыстамі.

У 1633 г. Вінцэнт дэ Поль разам з Луізай дэ Марыяк заснаваў законную супольнасць Дачок міласэрнасці, вядомых пад назваю шарыткі (ад французскага слова charity – міласэрнасць). Памёр святы ад знясілення 27 верасня 1660 года ў Парыжы. 13 жніўня 1729 г. Папа Бэнэдыкт XIII абвясціў Вінцэнта дэ Поля блаславёным, а 16 чэрвеня 1737 г. Папа Клімент XII далучыў яго да ліку святых.

**29 верасня – Дзень святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

*Падрыхтавала*
**Ірына Радзевіч**



**Працэсія на свята Арханёла Міхаіла ў Лужках. 29.09.2014.**
*Фота Марыны Сінкевіч*

## Урачыстасць вечных шлюбаў у Віцебскай катэдры

**У нядзелю, 5 жніўня, у Віцебску ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага вечныя шлюбы склала сястра Марыя Серафіна Мацулевіч з Кангрэгацыі сясцёр-служабнічак Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганна Зачатай.**

Урачыстую Эўхарыстыю ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

На свята сабраліся родныя і блізкія манахіні, вернікі катэдральнай парафіі, а таксама землякі з Браслава, адкуль родам с. Серафіна.

Біскуп Алег у сваёй гаміліі падкрэсліў, што не можна аддаць Богу нічога больш прыгожага, чым жыццё і сэрца, дакладна жывучы духоўнымі каштоўнасцямі. Ніводная справа або праца не заменіць сэрца, прысвечанае Богу. І толькі такое сэрца можа быць гатова на кожнае пасланне, адкідаючы ўсе выгоды і эгаізм, даючы сапраўдную радасць і сапраўднае шчасце.

***Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, фота*




## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага пасвячэння наступных святароў:

**1 верасня** – **імяніны** адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4 верасня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порпліshча)*;

**7 верасня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Максім Варанюк OFMCap** *(Докшыцы)*;

**9 верасня** – **імяніны** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**18 верасня** – **імяніны** адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня** – **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**21 верасня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**26 верасня** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар "Карытас" *(Віцебск)*;

**28 верасня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **а. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*, **кс. Вячаслаў Пялінак**; **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**29 верасня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*, **імяніны** адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*.

*Падрыхтаваў*
**Зміцер Лупач**

# Сорам, агіда і мамін позірк

**Назва артыкула, вядома, умоўная, але і праўда: дзве такія розныя эмоцыі насамрэч звязаныя між сабой.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Паразмаўляем пра сорам і агіду. Згаданыя эмоцыі парныя, сацыяльныя, гэта азначае, што яны з'яўляюцца не пры нараджэнні, а ў выніку кантактаў з іншым чалавекам.

Сорам пачынае адчувацца ва ўзросце 1,5 – 2-ух гадоў, і штуршком з'яўляецца позірк з агідай з боку іншага чалавека, позірк, які дае зразумець: *"з табой штосьці не так", "ты не такі, як трэба", "мы не прымаем цябе такім"*. Зусім простая сітуацыя: дзіцё бяжыць да мамы, а тая рэзка адхіляецца, бо ён можа запэцкаць яе белую вопратку. Погляд і рухі маці малы счытвае як сігнал: *"я зараз выклікаю непрыемныя пачуцці"*, і тут з'яўляецца цягучае, гарачае адчуванне сораму.

Важна ўзгадаць, што першапачатковы сэнс агіды – сігналізаванне пра кантакт з чымсьці хворым, сапсаваным, небяспечным. Але ў сучасным свеце акцэнт з біялагічнага значэння перайшоў на сацыяльнае – на пагарду і фанабэрыстасць. Выклічнік *"Фу"*, скіраваны да маленькага чалавека, прыводзіць у збянтэжанасць, сарамлівасць, да няўпэўненасці ў сабе, няёмкасці, сумневаў. Дзіцё не разумее крыніцу такой рэакцыі і таму пачынае дадумваць, шукаючы прычыны ў сабе. Дарослым неабавязкова сапраўды адчуваць пагарду да малога (як ілюструе прыклад вышэй), але позіркі, словы, смех могуць выклікаць сорам.

**Сорам** – лёгкі інструмент выхавання. Дарослым дастаткова пасаромець малога, каб ён хутка стаў паслухмяным, бо адчуваць такія эмоцыі вельмі непрыемна. Сорам развіваецца і набірае моц паступова, і можа перарасці ў зусім непажаданыя маштабы. Напачатку дзеці адводзяць позірк, глядзяць у падлогу, чырванеюць, рэагуюць на канкрэтныя словы бацькоў. Пазней пачынаюць уяўляць, як на іх будуць глядзець, калі яны зробяць штосьці дрэннае. І сорамна робіцца ўжо ад аднога толькі ўяўлення, *"што мама скажа...", "што падумае бацька..."*. Наступны этап, калі ўжо і няма нікога іншага, ніхто не ўяўляецца, але ў вочы глядзець людзям сорамна (хіба ж мы ні сустракаліся з тымі, хто не вытрымлівае позіркі людзей, не можа глядзець у вочы?). Ну і апошні этап нездаровай сарамлівасці, калі эмоцыя становіцца фонавай. Заўжды адчуваеш сябе нядатным, недарэчным, не такім, як іншыя, нявартым увагі. Хранічны сорам – сумная і небяспечная з'ява.

**Як абараніць дзіця ад нездаровага сораму і дапамагчы яму быць больш упэўненым і адкрытым?**

● Не сварыцеся на дзяцей і не карайце іх пры іншых людзях. Выхоўвайце малых дома, у прыватнай абстаноўцы.

● Не распавядайце іншым пра дрэнныя ўчынкі Вашых дзяцей.

● Не ўзгадвайце мінулыя дзеянні малых, пра якія Вы ўжо паразмаўлялі з імі.

● Не распавядайце чужым людзям пра тое, як Вашае дзіцё саромелася кагосьці.

● Не прыцягвайце ўвагу іншых, калі дзіцё бянтэжыцца. Забудзьцеся на словы "А ты што саромеешся? Ну чаго ты? Не саромся! Каго ты тут саромеешся?"

● Не дазваляйце чужым людзям сварыцца ці бянтэжыць Вашага малога.

● Ніколі не кажыце сваім дзецям, што Вам сорамна за іх перад знаёмымі, што не хочаце ісці з імі побач, бо яны запэцкаліся, безгустоўна апрануліся ці атрымалі дрэнную адзнаку.

● Не прымушайце дзіцё глядзець Вам у вочы, калі яно бянтэжыцца.

● Паважайце сваіх дзяцей у любым узросце.

● Будзьце ўважлівыя да дзіцячых эмоцый, не абясцэнівайце іх патрэбы, нават калі яны падаюць вам смешнымі і няважнымі.

● Спрабуйце тлумачыць дзецям свае і іх рэакцыі, усталёўваць правілы, абмяркоўваць праблемы. Заўжды памятайце: дзеці маюць права на памылкі, і гэта не робіць іх дрэннымі.

Такім чынам, сорам – гэта форма гневу, гневу на сябе. З дапамогай сораму можна хутка ўздзейнічаць на дзіцё і дамагацца ад яго патрэбных паводзінаў. Але каб чалавек паважаў і прымаў сябе, не баяўся праяўляцца ў соцыуме і дзейнічаць, варта паважаць маленькага чалавека, размаўляць з ім і дапамагаць яму спакойна разабрацца з правіламі гэтага свету.



# Жизнь после отпуска: постотпускной синдром

**Лето подходит к концу, а вместе с ним и массовый сезон отпусков.**

**Марина Ткач**, *магистр психологии*



Думаю, не только мне, но и вам в это время доводилось слышать от друзей и знакомых жалобы на то, что они так хорошо отдохнули во время отпуска, но, вернувшись на работу, ощущают непреодолимую усталость, апатию, грусть и хандру. Казалось бы, странное состояние, но у него есть свое название – это постотпускной синдром или постотпускная депрессия. На Западе для этого состояния придумали красивое название "Post Vacation Blues". Своего рода ностальгия, возникающая после завершения отпуска.

Итак, давайте разберемся с этим, чтобы знать врага в лицо.

**Постотпускной синдром** – комплекс дискомфортных ощущений, возникающих после выхода на работу. И здесь можно говорить как о психологических реакциях (ухудшение настроения, апатия, рассеянность, раздражительность), так и о физиологических проявлениях (бессонница, головная боль, утомляемость, проблемы с артериальным давлением и т.д.). Это своеобразная перестройка организма на рабочий режим.

Причина постотпускного синдрома заключается в контрасте между свободными и яркими днями во время отпуска и, порой, унылыми и ничем непримечательными трудовыми буднями.

Ученые доказали, что подверженность данному синдрому зависит в том числе и от типа темперамента. Меланхолики и флегматики больше всех склонны ощущать постотпускной синдром, в то время как сангвиники и холерики легче и проще переносят период адаптации к работе после отпуска.

**Что же делать, если избежать постотпускного синдрома не удалось?**

"Всё пройдет… и это тоже". Эта знаменитая фраза, написанная на кольце Соломона, должна стать для вас девизом и толчком к пониманию того, что данное состояние вполне естественно и рано или поздно закончится. Главное – не подгонять себя к скорейшему выходу из этого состояния. Отпустите ситуацию, дайте время, и вы сами не заметите, как всё придёт в норму.

Отдых после отпуска. Сразу вспоминается знаменитый афоризм "Никто так не нуждается в отпуске, как человек, только что вернувшийся из отпуска". Отведите для себя 2-3 дня до выхода на работу на расслабленное времяпрепровождение, чтобы собраться с мыслями и силами.

Планируйте рабочий график с учётом момента адаптации. Не бросайтесь в омут рабочей суеты с головой. Не пытайтесь сделать и успеть как можно больше, начните с малого. По возможности не беритесь за новые дела, ибо они поспособствуют повышению ответственности, а вам это сейчас ни к чему. Не проводите деловые переговоры или совещания в первые дни после отпуска. Увеличивайте рабочую нагрузку постепенно.

Восстановите свой стандартный режим сна и питания. Во время отдыха мы нередко позволяем себе вольности в плане сна и еды. Поэтому постарайтесь спать не менее 8 часов в сутки, при этом стоит отказаться от посиделок допоздна, тогда и ранний подъём не будет пыткой. В режиме питания тоже должна присутствовать некая организованность: завтрак, обед, ужин.

**Жизнь после отпуска существует!** Мы привыкли основательно отдыхать только во время отпуска, поэтому и ждём его, как некое чудо. А ведь каждую неделю у нас есть как минимум два дня для того, чтобы ярко и интересно провести время. Поход в театр или кино, встреча с друзьями, прогулка на свежем воздухе. Вариантов много. Главное – позволить себе отдохнуть, а не увязнуть в рутине бытовых дел (я не призываю перестать их делать, но для этого можно найти другое время). Поверьте, домашние дела и заботы будут всегда. Просто нужно помнить одну вещь: отдых – это не роскошь. Если вы дадите себе порцию отдыха и расслабления, то в последующем сможете более качественно и плодотворно выполнять, например, свои профессиональные обязанности и, как следствие, достигните высоких результатов.

Не ищите поводов для грусти. То, что отпуск закончился, – это закономерно и логично. Нельзя отдыхать всё время, да и невозможно: от отдыха тоже устаёшь. Воспринимайте прошедший отпуск как увлекательный и интересный, замечу, не последний в вашей жизни опыт. Да и ваша работа, и повседневный ритм тоже имеют ряд плюсов и положительных сторон. Поверьте, они там есть, нужно просто захотеть их увидеть. Считается, если мысли о предстоящем возвращении на работу вызывают негативные эмоции и дискомфортные состояния, значит, это не ваша работа, может быть, не та сфера деятельности, которой бы вы хотели заниматься.

Планируйте новый отпуск. Когда впереди появится новая цель, вам станет легче примириться с действительностью. А работа, по своей сути, является именно тем средством, с помощью которого можно достичь поставленных целей.

Конец лета, конец отпуска, вообще любое завершение чего-либо – это не повод для сожаления и грусти. **Жизнь продолжается, и всё лучшее ещё впереди!**

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем нашага шаноўнага **ксяндза Андрэя Куліка** з Днём нараджэння (26 жніўня)! Шчыра жадаем Вам, дарагі ксёндз Андрэй, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, натхнення ў штодзённых справах, здзяйснення ўсіх мараў, вытрымкі ў няпростых жыццёвых сітуацыях! Няхай міласэрны Бог благаслаўляе Вас на новыя справы і няспынна аберагае ў служэнні Езусу, людзям і Касцёлу!*

*Атуляем Вас нашаю любоўю і штодзённаю малітваю!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Унебаўшэсця Пана ў в. Дзеркаўшчына***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны наш **ксёндз Уладзімір Шымковіч**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Мы Вас вельмі любім і дзякуем Пану Богу, што Вы з'явіліся ў жыцці кожнага з нас! Дзякуем Пану Богу за Вашу стараннасць, за цярплівасць, справядлівасць, сціпласць, за разуменне нашых праблем, за клопат пра нас. Дзякуем Вам за цяпло і ўтульнасць нашага касцёла, за тое, што з усімі хваробамі і болем душы мы спяшаемся пад яго светлы дах, каб ажывіць душу!*

*Дарога святара вельмі цяжкая. Дай, Бог, Вам здароўя на многія гады, пастырскай мудрасці, сілы і цярпення! Божай дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх пачатых справах, памнажэння дароў, якімі Вас узнагародзіў Пан Бог, заступніцтва Маці Божай і дапамогі святога апекуна!*

***З удзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем нашага **пробашча Юрыя Жаўняровіча** з гадавінай святарскага пасвячэння (5 жніўня)!*

*Паважаны ксёндз Юрый! Мы рады, што Вы ў нас ёсць. Мы ўдзячныя Богу, Вашай сям'і, усім, хто стаяў ля вытокаў Вашага выбару жыццёвага шляху, за тое, што маем такога святара!*

***Святарскі шлях ахвярны і няпросты,***
***Душпастыр Вы, дызайнер, будаўнік.***
***Непадуладны часу і ўзросту,***
***Натхнёны і нястомны працаўнік!***

*Шчыра дзякуем, што Вы несяце нам радасць Евангелля, каб мы трывалі ў Хрысце, ішлі ў еднасці з Хрыстом.*

*Няхай Міласэрны Бог адорыць Вас моцным здароўем, невычэрпным натхненнем, нязгаснай любоўю, вытрымкай і цярпеннем! Будзьце заўсёды жыццярадасным і аптымістычным!*

***Удзячныя вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў аг. Ахрэмаўцы (Браслаўскі раён)***

## Шаноўны ксёндз Антоній Лагунёнак!




*Сардэчна віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (18 жніўня)!*

*Шчыра жадаем Вам шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі святога заступніка, вясёлага настрою, моцнага здароўя, поспехаў у працы!*

***Ад усіх вернікаў парафіі св. Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава, Часлава Вышадка***

## Паважаны ксёндз Мікалай Ліпскі!



*З жніўня ў Вас Дзень нараджэння. Ад душы жадаем Вам шчасця, натхнення, здароўя, здзяйснення задум і планаў у новай парафіі! Ваш дэвіз – "Праз прыгажосць да Бога" – доказ таго, што мы маем за дзесяць гадоў Вашага служэння ў Лучайскай парафіі. Вы стварылі тут неймаверную прыгажосць, пакінулі багатую спадчыну. Хай Добры Бог дапамагае Вам несці нялёгкую службу ў іншых парафіях, а Божая Маці няхай апякуецца Вашым святарскім шляхам!*

***З найлепшымі пажаданнямі і малітвай, парафіяне з Лучая***

## Віншуем!

*Прыміце, дарагі наш **айцец Мікалай**, шчырае віншаванне з Днём нараджэння і падзяку за ахвяру самаадданай службы ў нашай парафіі, пажаданні моцнага здароўя на шляху суправаджэння нас да Бога!*

*Асаблівае віншаванне і падзяка за сына Вашым бацькам, якія, можна сказаць, поплеч з Вамі штодзённа нясуць Вахту на службе касцёлу Беларусі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Марыі Магдалены. г. Новалукомль***





## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы хочам павіншаваць нашага дэкана – **ксяндза Кшыштафа Сілкоўскага** – і нашага вікарыя – **ксяндза Генадзя Рэйшэля** – з Днём нараджэння. У нашых святароў Дзень нараджэння быў 16 жніўня.*

*Жадаем нашым шаноўным святарам моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач! Няхай Святы Дух дапамагае ім у выкананні душпастырскай паслугі і шчодра адорвае ўсімі ласкамі!*

*Ксёндз Генадзь Рэйшэль працуе ў нас нядаўна, але мы яго палюбілі ўсёй душой. Мы ўдзячныя святару за яго добразычлівасць, справядлівасць, уважлівасць! Імша адпраўляецца кожную нядзелю і кожнае свята. Для нашага касцёла ксёндз Генадзь набыў новы абрус, фігурку Уваскрослага Пана Езуса і Езуса ў гробе, новыя арнаты і іншае.*

***Вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай у Ёдах***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*29 жніўня адзначае Дзень нараджэння **ксёндз Вячаслаў Пялінак**.*

*Шаноўны ксёндз Вячаслаў! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем Божай ласкі, моцнага здароўя, здзяйснення мараў, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач! Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве.*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне Ідолтаўскай парафіі***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны наш **ксёндз Уладзімір Шыдлоўскі**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень Вашага святарскага жыцця, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, шчодрага плёну на ніве Пана!*

*Цешымся з Вашай святарскай паслугі! Дзякуем Вам за Ваша добрае сэрца, за шчырасць, мудрасць, за любоў да Пана Бога, якая з'яўляецца прыкладам для ўсіх нас!*

***Вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

## У Браславе вечныя манаскія абяцанні склала сястра Лілія Дарожка SJE

**14 жніўня ў Браславе сястра Лілія Дарожка склала вечныя манаскія абяцанні ў Кангрэгацыі сясцёр-служабніц Езуса ў Эўхарыстыі.**

Урачыстую Літургію ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

На малітву сабраліся не толькі святары, сёстры і родныя, а таксама вернікі парафій, у якіх працавала і цяпер нясе служэнне сястра Лілія. Біскуп Алег у сваёй гаміліі прыгадаў словы Хрыста, што жыццё чалавека падобнае да зярнятка, якое, каб прынесці багаты плён, павінна памерці. Нашае жыццё павінна круціцца вакол Бога, як Зямля вакол Сонца, не даючы месца свайму эгаізму.

Пасля гаміліі і Літаніі да ўсіх Святых сястра Лілія скала на ўсё жыццё абяцанні чысціні, беднасці і паслухмянасці. З гэтага моманту яе жыццё належыць выключна Хрысту.

Таксама падчас Літургіі сястра Іна Амельчанка SJE і сястра Кацярына Папакуль SJE аднавілі свае манаскія шлюбы на год, якія складалі на рукі Настаяцельніцы Дэлегатуры сястры Антаніны Багдановіч SJE.

*с. Тацццяна Гмыза SJE, тэкст і фота*

## Новы крыж у вёсцы

**Крыж пры ўездзе ў вёску на перакрыжаванні дарогі з'явіўся ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Цяпер задумалі яго замяніць. Ініцыятарамі гэтай справы сталі Эдуард Навіцкі і Тадэвуш Папакуль.**

Матэрыял з сасны знайшоўся ў гаспадарцы Навіцкага. Разам мужчыны зрабілі прыгожы высокі крыж, пафарбавалі яго, прымацавалі фігурку Езуса Хрыста. Калісьці яе прывезла з Вільні, з касцёла Вострай брамы, Юлія Бляяўская. Юлія адышла ў лепшы свет, але засталася пра яе памяць для вёскі, сведчанне шчырай веры ў Бога ў тыя часы, калі гэтая вера не ўхвалялася.

Перавезці і ўсталяваць крыж дапамог Дзяніс Бабуль. Агароджу зрабіў Эдуард Навіцкі і разам з жонкай пафарбаваў яе. Прыгожыя кветкі пасадзілі Зоя Бабуль разам з дачніцай Галінай. Дождж паспрыяў, каб кветкі прыжыліся.

8 ліпеня ксёндз Андрэй з Далёкіх асвяціў крыж у прысутнасці вяскоўцаў. Малітвы, кветкі, агеньчыкі свечак як сімвал жыцця былі ў гэты дзень ля крыжа. Дык няхай ён аберагае вёску на доўгія гады! А вёска і сапраўды жывучая! 30 хат стаяць як і раней. Мясцовыя жыхары жывуць, дзеці памерлых прыязджаюць у родны край на лецішча. І пенсіянеры не здаюцца.

Крыж рабілі, садзілі кветкі ля яго людзі паважанага ўзросту. Падзея гэта адбылася ў вёсцы Мілашкі Браслаўскага раёна. Тут жывуць добрыя людзі…

*Ірына Філановіч, в. Мілашкі (Браслаўскі раён)*

# Пераможцам Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі стала Лынтупская парафія

**З 8 па 11 жніўня ў Оршы праходзіла чацвёртая Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Тэма сёлетняй сустрэчы гучала так: "Касцёл – гэта сям'я".**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Дар'я Іваноўская**, *фота*




Адкрыў чарговую дыяцэзіяльную парафіяду біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. У гэтым годзе ў спаборніцтвах прымалі ўдзел дзеці і моладзь з сямі парафій: з Верхнядзвінска, Глыбокага, Лынтупаў, Віцебска (катэдра), Пагошчы, Лучая, Варапаева.

На працягу чатырох дзён удзельнікі паказвалі свае здольнасці. У намінацыі "Тэатр" журы ацэньвала хатнія заданні. За візітную картку, інсцэніроўку "Святая Сям'я ўзорам для нас" і конкурс рэлігійнай песні першае месца атрымала каманда з Лынтупаў. Пераможцам у конкурсе пантамімы стала Глыбокае.

У намінацыі "Святыня" ўзнагароджваліся ўдзельнікі ў двух конкурсах. За малюнак на тэму "Касцёл – гэта сям'я" ўганаравалі Лаліту Арлоўскую (Віцебск), а ў ведах па гісторыі Віцебскай дыяцэзіі найлепшай была Вольга Януль (Пагошча).

Віцебская катэдральная парафія стала пераможцам па валейболе і футболе.

У агульнай намінацыі "Спорт – тэатр – святыня" першае месца занялі дзеці і моладзь з Лынтупскай парафіі. І ў наступным годзе менавіта яны будуць прадстаўляць Віцебскую дыяцэзію на 31 Міжнароднай парафіядзе ў Варшаве.

## Спіс пераможцаў чацвёртай дыяцэзіяльнай Парафіяды ў Оршы

**ТЭАТР**
**Візітная картка парафіі:**
1. Лынтупы
2. Глыбокае
3. Пагошча

**Конкурс рэлігійнай песні. Марыйная песня:**
1. Дзіяна Літвіновіч (Лынтупы).
2. Удзельнікі з Пагошчы.
3. Марыя і Аляксандра Малец (Глыбокае).

**Інсцэнізацыя: "Святая Сям'я ўзорам для нас".**
1. Лынтупы.
2. Верхнядзвінск.
3. Глыбокае.

**Пантаміма:**
1. Глыбокае.
2. Віцебск.
3. Лучай.

**СВЯТЫНЯ**
**Конкурс мастацкай творчасці (малюнак):**
1. Лаліта Арлоўская *(Віцебск).*
2. Аляксандра Крот *(Пагошча).*
3. Марыя Малец *(Глыбокае).*

**Конкурс ведаў па гісторыі Віцебскай дыяцэзіі:**
1. Вольга Януль *(Пагошча).*
2. Анастасія Храпан *(Пагошча).*
3. Аляксандра Малец *(Глыбокае).*

**СПОРТ**
**Тэніс. Дзяўчаты:**
1. Крот Аляксандра *(Пагошча).*
2. Кулёнак Меліке *(Лучай).*
3. Матушэўская Паліна *(Лучай).*

**Хлопцы (катэгорыя В):**
1. Кейзік Арцём *(Варапаева).*
2. Лапкоўскі Павел *(Віцебск).*
3. Жолуд Дзмітрый *(Глыбокае).*

**Хлопцы (катэгорыя С):**
1. Сініца Павел *(Лучай).*
2. Буханак Мікіта *(Варапаева).*
3. Ядзяла Арцём *(Пагошча).*

**Плаванне.**
**Дзяўчаты:**
1. Кухальская Марыя *(Лучай).*
2. Літвіновіч Дзіяна *(Лынтупы).*
3. Шапуцька Святлана *(Пагошча).*

**Хлопцы (катэгорыя С):**
1. Мітуневіч Аляксандр *(Лынтупы).*
2. Домжа Дзмітрый *(Лынтупы).*
3. Корсун Аляксандр *(Віцебск).*

**Хлопцы (катэгорыя А):**
1. Тышко Антон *(Глыбокае).*

**Скачкі ў даўжыню.**
**Дзяўчаты (катэгорыя А):**
1. Малец Аляксандра *(Глыбокае).*
2. Анкудовіч Вераніка *(Лучай).*
3. Малец Марыя *(Глыбокае).*

**Дзяўчаты (катэгорыя В):**
1. Іваноўская Марыя *(Глыбокае).*
2. Жук Яна *(Варапаева).*
3. Барыла Марыя *(Глыбокае).*

**Дзяўчаты (катэгорыя С):**
1. Сняжкова Ангеліна *(Лынтупы).*
2. Гюкша Дзіяна *(Лынтупы).*
3. Кулько Юлія *(Пагошча).*

**Хлопцы (катэгорыя А):**
1. Тышко Антон *(Глыбокае).*
2. Януль Андрэй *(Пагошча).*

**Хлопцы (катэгорыя В):**
1. Рудак Данііл *(Глыбокае).*
2. Сініца Павел *(Лучай).*
3. Рудзько Алег *(Віцебск).*

**Хлопцы (катэгорыя С):**
1. Зуеў Міхаіл *(Пагошча).*
2. Янкун Павел *(Лынтупы).*
3. Руткоўскі Дзяніс *(Лынтупы).*

**Бег 30 метраў:**
**Дзяўчаты (катэгорыя А):**
1. Малец Аляксандра *(Глыбокае).*
2. Анкудовіч Вераніка *(Лучай).*
3. Арлоўская Лаліта *(Віцебск).*

**Дзяўчаты (катэгорыя В):**
1. Шапуцька Святлана *(Пагошча).*
2. Жук Яна *(Варапаева).*
3. Іваноўская Дар'я *(Глыбокае).*

**Дзяўчаты (катэгорыя С):**
1. Цюкша Дзіяна *(Лынтупы).*
2. Сняжкова Ангеліна *(Лынтупы).*
3. Кулько Юлія *(Пагошча).*

**Бег 60 метраў:**
**Хлопцы (катэгорыя В):**
1. Іваноў Яраслаў *(Віцебск).*
2. Рудак Данііл *(Глыбокае).*
3. Тышко Антон *(Глыбокае).*

**Хлопцы (катэгорыя С):**
1. Зуеў Міхаіл *(Пагошча).*
2. Руткоўскі Дзяніс *(Лынтупы).*
3. Мітуневіч Аляксандр *(Лынтупы).*

**Шашкі:**
**Хлопцы:**
1. Грыбко Ян *(Варапаева).*
2. Рудзько Алег *(Віцебск).*
3. Булыня Антон *(Віцебск).*

**Дзяўчаты:**
1. Малец Марыя *(Глыбокае).*
2. Мялешка Валерыя *(Верхнядзвінск).*
3. Барыла Марыя *(Глыбокае).*

**Футбол:**
1. Віцебск.
2. Глыбокае.
3. Пагошча.

**Валейбол:**
1. Віцебск.
2. Глыбокае.
3. Пагошча.

**Па выніках намінацый "Спорт – тэатр – святыня" былі вызначаны тры пераможцы:**
**1 месца — Лынтупы.**
**2 месца — Глыбокае.**
**3 месца — Пагошча.**

***

**Вялікі фотарэпартаж можна паглядзець у суполцы ДДМ Віцебскай дыяцэзіі ў Кантакце**
**Запрашаем на старонку!**

# Італьянскі суд прызнаў пілігрымку ў Санцьяга-дэ-Кампастэла дастатковай, каб не прымяняць пакаранне да асуджанага

**Італьянскі суд устрымаўся ад прысуду маладому абвінавачанаму пасля яго пілігрымкі ў Санцьяга-дэ-Кампастэла.**

22-гадовы мужчына з Паўночнай Афрыкі павінен быў быць пакараным за здзяйсненне розных злачынстваў, звязаных з ужываннем наркотыкаў.

Суд, аднак, вырашыў не прызначаць адказчыку пакаранне, паколькі той прайшоў пешшу 1500 км у пілігрымцы да іспанскага санктуарыя ў Санцьяга-дэ-Кампастэла. Суд прызнаў дадзены факт выхаваўчым мерапрыемствам для выпраўлення абвінавачанага. Гэта першы выпадак у сістэме італьянскага правасуддзя, – пішуць СМІ. Паводле медыяў, малады чалавек 85 дзён ішоў шляхам св. Якуба. Яго суправаджаў 68-гадовы апякун з Таварыства дапамогі моладзі ў горадзе Местрэ на поўначы Італіі.

Такія праекты рэалізуюцца ў Бельгіі і Францыі. Пагадненне прадугледжвала адмову ад ужывання наркотыкаў, алкаголю, цыгарэт і ад карыстання мабільным тэлефонам на час пілігрымкі. На праживанне і начлег пілігрымам выдзелілі грошы – амаль 40 еўра на дзень.

Маладому хлопцу нялёгка было прывыкнуць да новага рытму дня і новых правілаў, – адзначыў яго апякун Фабрыцыа, які падчас пілігрымкі адчуваў сябе дзядулем. Ён падкрэсліў, што яго падапечны адкрыў новыя каштоўнасці жыцця ў "прыгажосці прыроды" і наведванні новых месцаў. "Маё жыццё змянілася", – сказаў малады пілігрым, вярнуўшыся ў Італію.

***Паводле матэрыялаў CREDO***
*Пераклад Catholicnews.by*



# Адпустовая ўрачыстасць у Канстанцінаве



**Фэст з нагоды Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі прайшоў у Канстанцінаве Мядзельскага дэканата ў сераду 15 жніўня.**

**Леанід Юрык,** *тэкст і фота*

Касцёл у Канстанцінаве мае тытул Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Галоўная славутасць вёскі пабудавана ў 1896 г. з мясцовага бутавага каменю на падмурку храма, закладзенага ў 1826 г. па фундацыі Францішка Пашкевіча. Заканчэнне будаўніцтва фінансавалі граф Віктар Старжынскі з жонкай Марыяй (з Беніслаўскіх) і Аляксандр Хамінскі з жонкай Эвелінай.

Зараз у Кастанцінаве працуе ксёндз Алег Мурзіч, які з'яўляецца пробашчам парафіі, што налічвае зараз каля 400 вернікаў. З кожным годам колькасць парафіян змяншаецца, але кс. Алег не губляе надзею на тое, што калі-небудзь гэтыя лічбы будуць расці.

На ўрачыстасць прыбылі кс. Антоні Казлоўскі, пробашч парафіі св. Юды Тадэвуша ў Вішневе, што каля Смаргоні, і а. Бэрнард Радзік OCD, пробашч парафіі св. Андрэя Апостала ў в. Нарач Мядзельскага дэканата.

Святую Імшу ўзначаліў кс. Антоні, які ў сваім слове да вернікаў адзначыў важнасць гэтага свята, а таксама распавёў пра традыцыю асвячэння ў гэты дзень садавіны і гародніны.

Напрыканцы богаслужэння кс. Алег асвяціў дары, якія прынеслі вернікі ў Божы храм. Пасля адбылася працэсія вакол касцёла, гэтаму паспрыяла добрае надвор'е. Прыгажосць касцёла пры захадзе сонца і спевы на славу Хрыста і Маці Божай падкрэслівалі асаблівую ўрачыстасць гэтага свята, на якім кожны вернік мог атрымаць поўны адпуст.



На заканчэнне айцец Бэрнард удзяліў Божае благаслаўленне для ўсіх сабраных людзей у касцёле, а ксёндз Алег падзякаваў усім вернікам, якія удзельнічалі ў падрыхтоўкі да свята, а таксама ўручыў малітоўнікі тым, хто рыхтаваў выставу.

"Выстава парафіяльных умельцаў" размясцілася ў плябаніі. На ёй можна ўбачыць малюнкі, вышыванкі крыжыкам, працы па дрэву і іншыя рэчы. Усё гэта яшчэ раз даказвае што "кожны талент ад Бога".

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 жніўня 2018 г.**

***Ян 6, 60-69***

Вучэнне Езуса не было зразумелым для ўсіх адразу. Некаторыя сумняваліся ў Ім, бо Яго навука перарастала іх інтэлектуальныя і эмацыянальныя гарызонты. Так і сёння, сустракаючыся з Богам, мы разумеем, што Яго навука перарастае нас. Трэба прасіць Бога – Святога Духа, каб расплюшчыў вочы нашай душы, каб расшырыў гарызонты нашых думак, пачуццяў, нашага ўяўлення. Працэс развіцця нашай асобы, нашай душы ў тым і заключаецца, каб перарасці ўзровень, на якім мы зараз знаходзімся. А для гэтага патрэбна праца над сабой. Пётр ад імя апосталаў вызнаў, што Езус – Святы Божы і што Яго навука-слова – гэта жыццё. Гэта для нас падказка. Для духоўнага развіцця трэба адкрыцца на дзеянне Святога Духа і смела выходзіць на новы, прынесены Ім прастор. Трэба паверыць у боскасць Езуса, слухаць і прыслухоўвацца да Яго слова – слова жыцця.

*– Ці адкрыты я на Божыя натхненні?*

*– Ці дазваляю Богу расшырыць маю мудрасць, мой светапогляд?*

*– Ці не перашкаджае мая ўпартасць майму духоўнаму росту?*

*– Ці разумею, што, зачыняючыся на Божыя натхненні і Яго навуку, я зачыняю сваё сэрца перад Ім і перад любоўю, якую Ён хоча ўва мне развіваць?*

*– Што раблю, калі ў мяне з'яўляюцца духоўныя пытанні, сумненні і непаразуменні?*

*– Ці размаўляю пра гэта з Езусам, з Яго Касцёлам і Яго святарамі?*

*– Ці разумею, што трэба прызнаць Яго Богам?*

*– Ці разумею: трэба паверыць, што Ён не зробіць нічога, што было б для мяне дрэнным, бо любіць мяне?*

*– Ці лічу Яго навуку словам жыцця?*

*– Ці веру, што ў Яго навуцы ёсць адказы на мае пытанні?*

*– Ці веру, што Яго навука – гэта мудрасць, здольная даць жыццё?*

*– Ці хапае мне даверу да Езуса, каб ісці за Ім і шукаць паразумення, калі штосьці не разумею?*

**2 верасня 2018 г.**

***Мк 7, 1-8.14-15; 21-23***

Вучэнне Хрыста з'яўляецца заклікам для нас, каб зрабіць веру сапраўды духоўнай, шчырай, выкінуць з сэрца крывадушнасць і павярхоўнасць. Небяспека для духоўнага жыцця ў часы Езуса, а таксама і сёння – гэта крывадушнае затрымліванне на вонкавых жэстах і адначасова згода ў сваім сэрцы і думках на прынцыпы і падыходы гэтага свету. Такое падвойнае жыццё руйнуе веру і аддаляе чалавека ад Бога. Рэлігійныя формы і гаворка пра духоўнасць часта не што іншае, як туман, у якім мы хочам схаваць сутнасць справы. Крывадушнасць для многіх становіцца настолькі звыклай, што людзі ўжо і самі не заўважаюць хлусні, у якой жывуць. Гэта зачыняе чалавека на пошукі праўды, на ўдасканаленне свайго жыцця і навяртанне. Трэба сачыць за сваім сэрцам, за сваімі думкамі, каб яны былі Божымі. Менавіта там пачынаюцца святасць і грэшнасць. Наша душа – гэта поле змагання за любоў.

*– Ці не крывадушнік я?*

*– Наколькі ў мяне крывадушныя звычкі?*

*– Тое, што раблю, я раблю для таго, каб бачылі людзі ці каб выканаць Божую волю?*

*– Ці не хачу іншых людзей уцягнуць толькі ў знешняе разуменне веры?*

*– Ці не паддаюся рэлігійнай прапагандзе?*

*– Ці не маю кантактаў з сектантамі, якія затрымліваюць увагу на відавочным, скрыўляючы Божае вучэнне?*

*– Ці не жыву падвойным жыццём?*

*– Ці сур'ёзныя і сапраўдныя мая вера і мае адносіны з Богам?*

*– Ці заўважаю я зло, якое пачынае нараджацца ў маім сэрцы?*

*– Ці разумею небяспеку і сур'ёзнасць грахоў у думках?*

*– Ці разумею, што нясу адказнасць за фарміраванне сваіх думак?*

*– Ці бачу наступствы сваіх грахоў, зробленых у думках?*

*– Ці разумею, да чаго прывялі мае неразумныя рашэнні, фальшывыя меркаванні і спакусы?*

*– Ці разумею, што мудрыя думкі, натхненні Святога Духа – гэта пачатак вялікіх спраў у маім жыцці?*

*– Ці разумею, што здаровыя думкі, здаровая навука вядуць да здаровых рашэнняў і як вынік да здаровага Божага жыцця?*

**9 верасня 2018 г.**

***Мк 7, 31-37***

Аздараўленне глуханямога – гэта цудоўны чарговы знак, што Езус – чаканы Збаўца. Цярпенне хворага звяртае нашу ўвагу на няшчасце чалавека, які не чуе і не можа гаварыць. Ён закрыты на тое, што можа атрымаць ад людзей – добрае слова, а ад Бога – слава жыцця. Такі чалавек не можа папрасіць, падзякаваць, праславіць. Ён не можа засведчыць і падтрымаць словам. Сённяшні хворы – гэта сімвалічны прыклад чалавека, які мае праблемы ў адносінах. Ён не чуе Бога, людзей, не здольны пачуць, хоць і мае слых. Яго словы не жывуць, яны мёртвыя. Словы Езуса з сённяшняга Евангелля сучасны Касцёл выкарыстоўвае ў Літургіі хросту, тым самым заклікаючы катэхумена адкрыцца на жыццядайную моц Божага слова.

*– Ці веру, што Езус з'яўляецца Богам?*

*– Ці веру, што Ён – мой Збаўца?*

*– Ці веру, што Ён мае моц аздаравіць?*

*– Ці слухаю Бога і ці чую Яго?*

*– Ці слухаю людзей?*

*– Што я гавару?*

*– Ці дае маё слова жыццё?*

*– Ці ўмею падзякаваць, папрасіць, перапрасіць, праславіць?*

*– Ці аддаю гэтыя тэмы на малітве Богу, каб Ён мяне перамяніў?*

*– Ці малюся ў гэтых інтэнцыях?*

*– Ці разумею, што здаровыя адносіны з Богам і людзьмі – гэта моц, якая дае жыццё?*

**16 верасня 2018 г.**

***Мк 8, 27-35***

Дзейнасць Езуса ўзбудзіла вялікую цікавасць сярод людзей. Шмат хто дапытваецца, хто гэта? І сёння на зададзенае пытанне адказвае Пётр, называючы Езуса Месіяй. Мы ў сваім жыцці таксама павінны задумвацца: кім ёсць Езус? Адказы на гэта пытанне будуць мяняцца, ператвараючыся ў больш саспелыя, калі нашы адносіны з Ім развіваюцца. Езус вучыць апосталаў, хто Ён. Але гэта ім не падабаецца, бо Ён раскрывае ім навуку цярпення. Езус рашуча кліча, каб думкі і адносіны паміж імі былі Божымі, а не толькі чалавечымі. І працягвае, што, каб быць з Ім, ісці за Ім, трэба выконваць сваё пакліканне і не пазбягаць цяжкасцяў. Менавіта ад Езуса трэба вучыцца падпарадкоўваць сваю волю волі Айца. Таму што Езус – гэта тая каштоўнасць, за якую варта аддаць жыццё.

*– Ці часта я задумваюся, кім ёсць Езус?*

*– Ці размаўляю я з Ім пра гэта?*

*– Ці разумею, што такая размова ўмацоўвае повязі любові з Ім?*

*– Ці прымаю я з радасцю тое, што Бог мне адкрывае?*

*– Ці не хачу я вучыць Бога пра жыццё, пра веру, пра людзей і нават пра Яго самога?*

*– Ці гатовы я адрачыся за Езуса ад сваіх памылковых перакананняў?*

*– Ці гатовы я ісці за Езусам, нават калі гэта звязана з цяжкасцямі?*

*– Ці перамяняю свае думкі моцай Бога?*

*– Ці разумею, што варта шмат ад чаго адмовіцца, каб знайсці Езуса, бо Ён – найбольшая каштоўнасць?*

*– Ці гатовы я аддаць жыццё за Езуса?*

*– Ці разумею, што Бог не дае цяжараў большых, чым мы можам вынесці?*

*– Ці веру, што Ён дасць патрэбныя сілы, каб прайсці праз выпрабаванні на зямлі і дайсці да ўзнагароды ў небе?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!*

*Дарагія дзеткі! Сённяшняя "Пазнавайка" дапаможа кожнаму з нас навучыцца яшчэ больш слухацца сваіх бацькоў. Слухацца бацькоў вельмі важна, бо менавіта праз нашых матуль і татаў Бог клапоціцца пра кожнага з нас.*

## Аксана і прабачэнне бацькоў

Прачытай гісторыю пра тое, як дзяўчынка Аксана стала паслухмянай.

Дзяўчынка Аксана часта не слухала сваіх бацькоў і гэтым вельмі засмучала іх. Але аднойчы на святой Імшы яна пачула казанне, у якім святар распавядаў пра тое, як Езус паважаў сваіх бацькоў і слухаўся іх. Тады Аксана падумала, што нават Божы Сын быў паслухмяным.

Выйшаўшы з касцёла, дзяўчынка хутчэй пабегла дамоў, каб папрасіць у бацькоў прабачэння за сваю непаслухмянасць. Пасля гэтага выпадку жыццё дзяўчынкі змянілася. Яна з радасцю слухалася тату і маму, а яе сэрца заўсёды напаўнялі мір і радасць.

ЗАДАННЕ: У рамачцы намалюй дзяўчынку Аксану, якая просіць прабачэння ў сваіх бацькоў.



## Размяркуй правільна

Перад табою спіс, дзе ёсць прыклады паслухмянасці і непаслухмянасці бацькам. Твая задача правільна размеркаваць прапанаваныя выразы. Паслухмянасць – зялёны колер. Непаслухмянасць – чырвоны.

- Аленка памыла посуд, калі маці яе папрасіла.
- Алесь не апрануў шапку калі быў мароз, бо бацькі не бачылі яго.
- Тата папрасіў Алеся зайсці ў госці да старэнькага суседа і пагаварыць з ім, каб яму не было сумна, бо ён жыў адзін. Алесь жа пабег на вуліцу з сябрамі, забыўшыся пра просьбу таты.
- Бацькі прасілі Аленку, каб яна пайшла разам з імі ў касцёл і яна з радасцю згадзілася.
- Мама парасіла Аленку памыць падлогу, а яна не памыла і сказала малодшаму брату Алесю, што гэта яму бацькі загадалі памыць.

## Знайдзі адрозненні

Алег стараўся быць паслухмяным ва ўсім, слухаўся бацькоў і радаваў іх.

Заданне: Перад табою на малюнку хлопчык Алег і яго матуля. Знайдзі тут 5 адрозненняў і пазнач іх кружочкамі.



## Біблія пра паслухмянасць

Што гаворыцца ў Бібліі пра паслухмянасць бацькам даведаешся, калі выканаеш гэтае заданне, змяніўшы час на словы ў такім парадку: **12, 3, 6, 9.**




**Адказ запішы** ______________________________

______________________________.

РУБРЫКА: ПАЗНАЁМ СВЯТЫХ

## Святы Дамінік Савіа



Святы Дамінік нарадзіўся 2 красавіка 1842 года ў Італіі ў шматдзетнай сялянскай сям'і. У пяць гадоў ён ужо прыслугоўваў як міністрант падчас Імшы, а з сямі гадоў пачаў прымаць Камунію, хоць у тых краях гэта было незвычайным, бо да Першай Камуніі дзеці прыступалі толькі з дванаццаці гадоў. У 12 гадоў Дамінік трапіў у араторый св. Яна Боска ў Вальдока. Ён быў паслухмяны, спакойны і радасны, вельмі сур'ёзна ставіўся да сваіх вучнёўскіх абавязкаў і чым толькі мог дапамагаў калегам: навучаў іх Катэхізісу, апекаваўся хворымі, сунімаў сваркі паміж вучнямі. Дамінік памёр амаль раптоўна яшчэ не маючы 15-ці гадоў ад хваробы лёгкіх. Апошняе, што ён прамовіў: "Ах, якія прыгожыя я бачу рэчы!»

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Ружанцовы Кангрэс пройдзе 6 кастрычніка ў Магілёве



**Дарагія чытачы! Ужо набліжаецца ружанцовы месяц – кастрычнік. Мы звяртаемся да святароў, сясцёр законных, а перадусім да чальцоў колаў ружанцовых з запрашэннем на Ружанцовы Кангрэс, які адбудзецца ў Магілёве ў суботу, 6 кастрычніка, з 10.00 да 18.00.**

Падобна як і ў мінулым годзе мэта Кангрэсу, каторы арганізуюць дамінікане, – духоўная і інтэлектуальная фармацыя асобаў, якія горача моляцца на ружанцы. У гэтым годзе асаблівым апекуном Кангрэсу будзе св. Тамаш з Аквіну. Плануюцца чатыры канферэнцыі, якія прамовяць запрошаныя госці, ружанцовая малітва з медытацыяй на першую суботу месяца і час на сведчанні аб ласках, атрыманых праз пасярэдніцтва Каралевы Ружанца Святога.

На заканчэнне Кангрэсу адбудзецца ўрачыстая Эўхарыстыя, якую будзе цэлебраваць біскуп.




**Праграма Ружанцовага Кангрэсу:**

**9.30 – 10.15** – рэгістрацыя ўдзельнікаў;
**10.20** – адкрыццё кангрэсу;
**10.30 – 11.10** – даклад айца Віталя Сапегі ОР: "Св. Тамаш Аквінскі – Доктар Касцёла – жыццё";
**11.15 – 11.55** – Даклад айца Міхала Ермашкевіча ОР: "Каментарый св. Тамаша Аквінскага да малітваў "Ойча наш", "Вітай, Марыя" і "Credo";
*** – пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова;
**12.15 – 13.00** – набажэнства першай суботы месяца: 15 хвілін медытацыі і ружанец перад Найсвяцейшым Сакрамантам;
**13.00 – 13.50** – абед, кава, гарбата;
**14.00 – 14.40** – даклад сп. Алеся Жлуткі: "Св. Тамаш, прачытаны нанова";
**14.45 – 15.10** – даклад айца Марыяна Хануска ОР: "Св. Тамаш – вучань і настаўнік – любоў да Святога Пісання";
*** – пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова;
**15.30 – 15.55** – перапынак;
**16.00 – 16.40** – сведчанні аб пладах малітвы ружанцовай у жыцці;
**16.40** – падрыхтоўка да літургіі;
**17.00** – Эўхарыстыя.

У складзе пакета, які бясплатна атрымае кожны ўдзельнік Кангрэсу, будуць, між іншым, дзве цікавыя кнігі, перакладзеныя на беларускую мову. Першая з іх змяшчае каментарыі св. Тамаша да малітваў: "Ойча наш", "Вітай, Марыя" і да Вызнання веры. Штодзённыя гэтыя малітвы, а таксама ўважлівае прачытанне каментарыяў св. Тамаша напэўна нас узбагацяць.

Другая кніга, якую атрымаюць удзельнікі, – праца праф. Стэфана Свяржэўскага "Святы Тамаш, прачытаны наноў". Гэта кароткі сінтэз філасофіі і тэалогіі геніяльнага Доктара Касцёла. Будуць яшчэ і іншыя неспадзяванкі: цішоткі і кубкі, а таксама абед і гарбата.

Вельмі просім пра малітву ў інтэнцыі Ружанцовага Кангрэсу.

**Звяртаемся з гарачай просьбай!** Каб мы маглі добра падрыхтавацца, патрэбна інфармацыя, колькі асобаў і адкуль прыедзе (у мінулым годзе было каля 200 чалавек). Гэта вельмі важная інфармацыя! Тэрмін запісу груп і асобаў – да 25 верасня. Чым раней звернецеся, тым зручней гэта для арганізатараў. Просім таксама праінфармаваць, калі сітуацыя зменіцца. **Чакаем вас! Запрасіце блізкіх!**

**Кантакты:**
**а. Раман:** +375292919211; +48664570570 (sculzop@gmail.com)
**а. Павел:** +375299202007; 80222412939.

**Адрас для карэспандэнцыі:**
а. Раман Шульц ОР, вул. Якубоўская 39/18, 212026 г. Магілёў.

*а. Раман Шульц ОР*

## Як вы ставіцеся да служэння пры алтары дзяўчат-міністрантак?



- Станоўча, добра –196 адказаў;
- Лічу, што пры алтары павінны служыць толькі мужчыны – 508 адказаў;
- 50/50 – 72 адказы;
- Усё роўна – 29 адказаў.

**Усяго – 805 апытаных**

**Пакой для малітвы**

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: с акрамантальная паслуга, размова,
**кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.**
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
**+ 375 29 78 51 298**

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасласць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**
**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 5496
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 2900 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 24.08.2018 г. у 09.30
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1 Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл. Тэл.: 8(029)736-53-07 e-mail: katalickivesnik@gmail.com http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь